***Чытач заўжды перш, чым чытаць напацколенае пісарам, імкнецца сэнс тае пісаніны знайсці ва ўступе. А мой уступ будзе кароткі і такі:***

***Амерыка чужая нам краіна,***
***А там, куды ні плюнь,***
***У суродзіча патрапіш,***
***А ён пашле цябе на … радзіму***
***І смачна плюне ў тваё рыла.***

**ЯЗЭП ПАЛУБЯТКА**

# ВАНДРОЎКА Ў ЧЫКАГА

ІРАНІЧНА-ПРАЎДЗІВАЯ АПОВЕСЦЬ

**Ліда**
**“Пружмень”**
**2023 г.**

**Язэп Палубятка.** Вандроўка ў Чыкага. Іранічна праўдзівая аповесць. На беларускай мове. Ліда, ПУП “Пружмень”, 2023. 68 с.

Амаль дакументальная аповесць. Другі том сатырычнай гісторыі Беларусі. Той, хто ведае атачэнне аўтара па жыцці, лёгка пазнае ў большасці герояў абсалютна канкрэтных дзеячоў беларускага “дэмакратычнага” руху 90-х гадоў 20-га стагоддзя. Аўтар быў удзельнікам гэтага руху і гэтай вандроўкі, а таму яму можна верыць больш, чым самім прататыпам, якія будуць казаць, што было трохі не так.

Рэдактар: Мікола Кахановіч.
Тэхнічны рэдактар: Станіслаў Суднік.
Карэктура аўтарская.

Адбылося яно болей як дваццаць гадоў назад, але ўспаміны пра той час і зараз цешаць старэчую душу.

"Неспадзяванка! Такое бывае толькі раз у жыцці", - фантастычныя мроі тлумілі розум чалавеку. Андрэй Міклашэвіч з маленькага мястэчка М. да самага апошняга моманту, нягледзячы на тое, што ўжо меў на руках пашпарт з візаю, не верыў, што яму пашанцавала паехаць у Амерыку, у горад быдлазабойцаў, ганстараў, мафіі - Чыкага. Толькі ў дзень ад'езду ўпэўніўся: "Абламалася Яе Вялікасць халява!". Ён несупынна хадзіў па пакоі, пераступаў спакаваныя валізы, дзе ў самых патаемных месцах былі схаваны некалькі лішніх ад дазволу правозу пляшак гарэлкі. Міклашэвіч чакаў сябра з суседняга горада Аркадзя Піліпчыка, якому таксама падваліла гэткая халява ды радаваўся, што будзе хоць з кім на чужыне пасядзець у тамтэйшым бары. У конкурсе, вынікам якога была паездка ў Штаты, ён прыняў удзел выпадкова. Неяк у мясцовай забягалаўцы сустрэў сябра-бэнээфаўца і той усучыў яму нейкую анкету. За першай пляшкай мясцовы змагар з нямоглымі камунякамі доўга распавядаў пра сусветназнакамітую праграму кшталту "піпл-піпл" (Міклашэвіч на падпітку назваў тое на свой манер -"морда ў морду") і хто яе здзяйсняе. Але хто той "піпка" і з якою мэтаю праводзіцца гэтая справа Андрэй забыўся праз гадзіну часу. Тут жа, падчас угавору другой пляшкі, анкета была запоўнена. Скончыўшы першае вячэрняе ўжыванне, яны па дыяганалі перасеклі плошчу Леніна, што прымыкае да будынка развертыкаленай улады, плюнулі аднachасова ў бок помніка вялікаму правадыру ды падаліся на пошту. На якую адрэсу была адаслана тая анкета - цяжка сказаць, але тое, што

справу гэтую потым важка замачылі, у памяці засталося. Дый ніхто яшчэ не адмяняў гэты святы для беларуса звычай, калі ён купляў шнуркі, то мусіў прапіць туфлі. Анкету там прынялі ды выклікалі на сумоўе.

Сумоўе праводзілілі супрацоўнікі невядомай яму арганізацыі, што вяла навучанне беларускіх грамадскіх актывістаў з рэгіёнаў, каб узняць іх актыўнасць да свайго ўзроўню. Гутарка была незразумелай. З дваіх прысутных адзін маладзён увесь час маўчаў, другі, яго ўзросту, але ўжо лысы хлапец, несупынна задаваў нейкія недарэчныя пытанні, сярод якіх было і такое: ці быў ён камуністам і дзе яго партыйны білет? Хоць Андрэй да абеду і ўстрымаўся ад ужывання сугравальных напіткаў ды аб усім гаварыў шчыра, апошняе пытанне яго насцярожыла, і ён вымушаны быў распавядаць усё, як ёсць. Надалей была абвестка аб пераможцах конкурсу, сярод якіх значылася прозвішча Міклашэвіча. Пасля чаго пайшлі самыя звычайныя інструктажы, якія праводзілі беларускія валанцёры, што раней пабывалі у Амерыцы: што весці з сабою, як паводзіць сярод амерыканцаў і г. д. А галоўнае - неграў называць афраамерыканцамі. Толькі тады, калі ў пашпарт была пастаўлена віза, Андрэй аб усім распавёў жонцы Алене. Яна бясконца ўзрадавалася, але адразу запытала: "Дык ты там застанешся і нас потым забярэш?" Пачуўшы рашучае "не" засумавала, але адразу зрабіла такую выснову: "Зразумела! Амерыкосы вярбуюць на Беларусі сваіх агентаў. Тыя першыя, што гутарылі з табою - сапраўдныя цээрушнікі, а тыя, што інструктавалі - нашыя, купленыя імі. Ну, як будзе так будзе. Толькі грошы ў швейцарскім банку кладзі на маё імя". Крыху памаўчала і потым дадала: "Ты хоць задарма не прадавайся ім там. Тысячу "зялёных" у месяц прасі, а лепш дзве".

*Камітэт дзяржбяспекі РБ*
*Надзвычай сакрэтна*

*Асабістая справа Андрэя Міклашэвіч*

*...Калгасна-сялянскага паходжання. Адукацыя вышэйшая. Навучаўся па прынцыпе: лепш мець чырвоную морду і сіні дыплом, чым наадварот. П'е ўсё, што гарыць, і ў любы час. Пра несістэмныя сувязі з супрацьлеглым полам агентурных звестак няма. Заяву ў КПСС напісаў пасля таго, як з кіраўніком партыйнай арганізацыі ўстановы выпіў трохлітровы слоік пушчанскай. У тым яго слабіна.*

*На партсходы не хадзіў, падчас так званай "перабудовы" партыйны білет прадаў у Мінску на Камароўцы амерыканскаму паслу за 200 даляраў. Палову з іх прапіў усё з тым жа сакратаром парткама. У БНФ з першага дня заснавання. Затым уступаў ва ўсе партыі і рухі, што ствараліся на Беларусі. Прыкметная асаблівасць: беспамылкова распазнае нашых супрацоўнікаў, пасля чаго або б'е ў морду, або спойвае. Чыстасардэчна распавядае пра свае апазіцыйныя справы і дамагаецца ад нашых людзей, каб яны былі такімі ж шчырымі. Радзіму не прадасць і не прап'е, як і жонку, хоць заве яе "Тормаз ад БЕЛаЗа".*

Аркадзь Піліпчук прыехаў апоўдні. Ён з вялікімі патугамі цягнуў валізу на колах і ўвесь час пацеў ды стагнаў. У невялікім садку ля дома, дзе жыў Андрэй, пад яблыняй стаяў стол, застаўлены прысмакамі, якія нагатавала жонка гаспадара не для бяспутнага мужа, а для госця, паважанага ёй чалавека. Каб ласункамі не частаваліся мухі, пчолы ды восы, прысмакі жанчына накрыла газетай. Яна заўжды з дакорам казала Андрэю: "Бяры прыклад з гэтага чалавека. Культурна паводзіць сябе. Не жлукціць без меры, як ты". Міклашэвіч толькі ўсміхаўся і, каб не разбурыць імідж сябра перад сваёю жонкаю, не распавядаў, як той падчас адной дэмакратычнай імпрэзы пасля ўжывання камуністычна-дэмакратычных напояў розных гатункаў купаўся голы ў Нёмане, ці, па просьбе нейкай незнаёмкі, танчыў на стале ў рэстарацыі. Такімі экстравагантнымі паводзінамі ён спадабаўся Андрэю, і яны пасябравалі. Пасябравалі настолькі, што праводзілі не толькі супольна грамадскія праекты, але і адпачывалі сем'ямі. Аркадзь пабойваўся сваёй гаваркой ды мажной жонкі (розныя вагавыя катэгорыі) і ў яе прысутнасці паводзіў сябе паслухмяна-ціха, без лішняга ўжывання. Тады экстравагантнасць у яго паводзінах знікала.

Радасць паездкі за акіян неймаверна распірала Піліпчука. Як толькі ён расчыніў веснічкі сялібы і пабачыў сябра, пачаў распавядаць свае грандыёзныя планы дзейнасці за акіянам і па вяртанні. Неймаверным лямантам дайшоў да таго, што пачаў сцвярджаць: пакладзе ўсе намаганні, каб выступіць у Кангрэсе ЗША па беларускім пытанні:

- … І мы абавязкова знойдзем паразуменне з урадам гэтай краіны…

На што Андрэй, стрымліваючы смех, на поўным сур'ёзе зазначыў:

- Шкада, што няма Аль Капоне, з ім мы дакладна знайшлі б паразуменне, - і дадаў. - Мый рукі і пайшлі абедаць. У мяне сушняк, а мухі ўжо залезлі пад паперу і салаты "Тормаза ад БелАЗа" пачалі знішчаць.

Пасля першай чаркі адразу булькнула другая, і гутарка перайшла ў іншае рэчышча: што хто ўзяў, дзе схаваў і што заказалі прывесці кабета і сваякі. Калі прыйшла гаспадыня, госць бездыханна пахрапваў на зямлі пад яблыняй. Губы заседзелі мухі. Яна войкнула і пачала "чыхвосціць" свайго дарагога мужа, які збэйсціў такога шаноўнага госця. Той няспешна рамантаваў дзверы хлеўчыка, якія разламалі падсвінакі.

*Камітэт дзяржаўнай бяспекі РБ*
*Надзвычай сакрэтна*

*Асабістая справа Аркадзя Піліпчука*

*...Правінцыйны інтэлігент у першым калене - белая варона. Прыехаў пасля ўніверсітэта ў пушчанскую глухамань па ўласным жаданні. Са сталічнымі звычкамі не расстаўся, але і правінцыялам не стаў. У дзень прыезду да рук прыбрала тутэйшая прахадзімка, але сям'я сталая. Ужо чацвёра дзяцей, выключна ад яго - дадзеныя дакладныя - неўзабаве будзе і пятае. Некалькі дзяцей мае па-за шлюбам. Негатыўна ў плане алкаголю на яго ўздзейнічае Міклашэвіч. Местачкоўцы паважаюць, начальства баіцца. Нацыяналіст. Ідэалагічна вытрыманы, умелы арганізатар. Галоўнае - нікога не баіцца: немагчыма ні запалохаць, ні купіць.*

Уначы колькі сяброў і Алена, як дровы у печ, закінулі ў вагон цягніка наведвальнікаў Новага свету. У дзяржаўным аэрапорце "Мінск-2" удзельнікі паездкі павінны былі сабрацца за дзве гадзіны да вылету. З'язджаліся, як выпадала. У асноўным усе стараліся быць загадзя. Пунктам збору была шыльда, напісаная на аркушы паперы: "Чыкага". Ля яе шчыравала нейкая маладзіца, якая прадстаўлялася як Сабіна.

*Камітэт дзяржаўнай бяспекі РБ*
*Надзвычай сакрэтна*

*Асабістая справа Сабіны Цішкевіч*

*Заклятая нацыяналістка, хоць ведае не больш двух дзясяткаў беларускіх слоў. Цудоўна валодае англійскай моваю. У амурных справах суперпрафесіянал. Не зафіксавана асобаў, каб ёй адмовілі, у тым ліку і нашыя супрацоўнікі, што мелі заданні здабыць ад яе партэбныя звесткі. Самі давалі ёй сакрэтную інфармацыю. Кіраўнічка фонда "Адраджэнне Палесся", які працуе без статута, праграмы, але паспяхова. Не было выпадку, каб замежнікі адхілялі яе праекты.*

Антон Вайтовіч, знакаміты музыка, аранжыроўшчык, аўтар і сам жа выканаўца сваіх опусаў, з'явіўся ў аэрапорце "Мінск-2" за гадзіну да пасадкі. Чынна паставіў валізу, на яе паклаў гітару. За некалькі хвілін паспеў перацалаваць усіх маладых дзяўчат і старых кабет са складу дэлегацыі ды яшчэ адначасова змог іх пацiскаць. Тое самае зрабіў з выпадковымі пасажыркамі, што апынуліся побач. Яны ўсе былі задаволены так, што прасілі яго тое паўтарыць яшчэ. Ён адклаў гэтую справу на потым і заняўся расповядам пра напісаны ім сёння непаўторны твор, які падыме яго на новую вяршыню славы. Міклашэвіч сціпла запытаў, аб чым неўміручы шлягер. З першага радку зразумеў, што гэтая песня напісана ім яго сябру яшчэ тры гады таму назад. Паслухаў яшчэ некалькі радкоў, усміхнуўся і пайшоў з Аркадзем у буфет перакуліць шклянку гарэлкі на апахмел. Той адразу пагадзіся, бо таксама адчуваў - не вытрымае "сухі" шматгадзінны пералёт. Яны тады ўдвух вельмі памыляліся, бо не ведалі, што гэтае дабро ў самалёце даюць "за так" у неймавернай колькасці, а калі праявіць нахабства, то можна нажэрціся пад завязку. Антон тым часам натхнёна распавядаў пра сваю слынную цяперашнюю і будучую творчасць. Потым зрабіў перапынак, пайшоў у буфет і не праміў кульнуць кілішак за кошт Андрэя.

*Камітэт дзяржбяспекі РБ*
*Надзвычай сакрэтна*

*Асабістая справа Антона Вайтовіча*

*Лічыць сябе вялікім дзеячам культуры. На выступы збірае натоўпы не толькі нацыяналістаў і супрацоўнікаў КДБ; у апошні час туды мкнуць як маладыя дзеўкі ў пошках прыгод, так і састарэлыя кабеты. Кожная з іх марыць толькі аб тым з ім. За сваімі пасіямі прыбягаюць хлопцы і мужчыны, з перасцярогі, каб*

*"чагосьці не выйшла". Нарадзіўся ў вёсцы, але ніколі не трымаў у руках ні сякеры, ні касы. У бліжэйшым мястэчку вучыўся на аддзяленні музычнай школы па класе мандаліны. Музычны слых адсутнічае цалкам. За што і быў выключаны са школы праз паўгады. Без меры гаваркі. Угаворыць любую дзеўку і кабету. У мясцовым ДК арганізаваў гурток гітарыстаў. На сціплы папрок маці: "У гэтай справе, сынок, ты баран, лепш пайшоў бы гной з хлява выкінуў", - адказаў не менш сціпла, але безмерна нахабна: "Я талент! Граць на мандаліне мяне навучылі за паўгады, не тое што іншых. На гітары граць навучыўся сам ды іншых навучыў". Яго мыканне слухаюць тыя, хто ўвогуле нічога не разумее ні ў музыцы, ні ў паэзіі. Закляты нацыяналіст, хоць мае схільнасць іншы раз мяняць нацыянальнасць, калі яму неабходна атрымаць нейкую выгаду. Іншы раз кажа, што ён мае блізкаўсходнія карані і спасылаецца на гарбаты нос, зламаны ў дзяцінстве, калі ўпаў у суседскім садзе з грушы, дзе краў садавіну.*

Доўгачаканая пасадка.

Антон ішоў з маленькаю тэчкаю, бо валізу здаў у багаж, і гітараю. Паспяхова пройдзены ўсе кантролі і дагляды. Зараз засталася толькі пасадка ў самалёт. Цудоўнае надвор'е, цудоўны настрой. Душа рвецца ў спевы, бо перад ім, будучым творцам і выканаўцам шлягераў на Новым кантыненце, абшары бачацца неаглядныя, а ад надурняк выпітых сто грамаў з ласкі Андрэя хацелася іграць на мандаліне і галава буяла рыфмамі. На дзіва, радок дапасаваў да радка, чаго ў яго творчасці мала калі надаралася.

На ўваходзе ў самалёт стаяў двухметровы прапаршчык. Антон навясёлай ноце па-вайсковаму прывітаўся з ім, нахіліўся да прапаршчыка ды весела шапнуў на вуха:

- Макулатуры, што ганьбіць гонар і годнасць нашай дзяржавы, няма.

Пасля адказу прапаршчык ураз засумаваў:

- Ну, што ж вы так! За акіян ляціце, а як вы будзеце пра тутэйшую рэчаіснасць там распавядаць. Мы хутка гэтую справу выправім. І не забудзьце там слова закінуць за прапаршчыка Барашэвіча.

Месца Антона было на рад далей ад Андрэя. Тут да яго адразу падышла сцюардэса і перадала ладны пакет ды нешта шапнула на ангельскай мове, чаго пасажыр не зразумеў. У дзвярах з'явілася галава прапаршчыка. Ён весела ўсміхнуўся.

*Камітэт дзяржбяспекі РБ*
*Надзвычай сакрэтна*

*Асабістая справа прапаршчыка памежных войск*
*Сцяпана Барашэвіча.*

*Вышэйшая адзнака ў школе "пяць" па фікультуры.*

*Сярэдні бал - тры з паловаю. Да працы не прызвычаены, але ўмее прымушаць да гэтага іншых нават сваім выглядам. Па агентурных звестках, распаўсюджаве забароненую літаратуру сярод насельніцтва. Аднак ні разу на тым не быў заспеты. У астатнім самы звычайшы прапаршчык: крадзе ўсё, што кепска ляжыць, п'е, гуляе.*

*Сваіх не здае.*

Антон прыадкрыў пакет і знямеў. Там знаходзіліся самые з'едлівая карыкатуры, разнастайныя ўлёткі з правакацыйным тэкстам. Ён закінуў пакет на антрысолі і падсунуў да таго месца, дзе павінен быў сядзець Андрэй. Міклашэвіч заняў сваё месца і тут яму захацелася змясціць на верх ручную паклажу, каб не блыталася пад нагамі, але месца было занята.

- Што гэта? - запытаў Андрэй.

- Прывітанне ад прапара, - хіхікнуў хрыпатым голасам спявак.

Міклашэвіч заглянуў у пакет і таксама знямеў: "Гэта ж правакацыя! - рэшткі алкаголю ўмомант выветраліся. - Не хапала мне не паляцець, а загрымець у кутузку". Міклашэвіч паціху перасунуў пакет на месца над галавою Сяргея Ламейкі. Той выпадкова глянуў уверх.

- Што ў пакеце?

-Літаратура, якая ганьбіць рэчаіснасць.

-Чыю?

- Амерыканскую.

- Навошта яна мне ў Амерыцы? Няхай яго свае апаненты крытыкуюць.

- Супакойся, іншую.

- А што я з імі рабіць буду?

- Прадасі. Будзе бізнес. Навар.

- Дзе?

- Дзе-дзе? На вуліцы Далавараў.

- То добра. Няхай ляжаць. Там дзе-небудзь прысабечу. Відаць

будзе, - адказаў Сяргей.

*Камітэт дзяржаўнай бяспекі РБ*
*Надзвычай сакрэтна*

*Асабістая справа Сяргея Ламейкі*

*… па яго "шчырых" выказваннях можна падумаць, што нарадзіўся ў бел-чырвона-белай кашулі і з самага маленства быў заклятым нацыяналістам. Як ажаніўся, усю першую шлюбную ноч распавядаў сваёй палавіне, як тое павінна адбывацца між беларусамі. Актыўнасць у гэтым накірунку, відаць, паказная. З кожнага дзеяння, нават адсідкі, імкнецца мець выгаду.*

*Беларускасць - шырма. Зафіксаваны факт, калі ён шчыра сказаў: "На х… бачыў тую беларускаць." Відавочна рыхтуе глебу для эміграцыі. Рэальнай пагрозы нам не ўяўляе…*

*КДБ*
*Для слубовага карыстання*

*Іншыя ўдзельнікі дэлегацыі для нас не ўяўляюць цікавасці, хоць за імі будзе весціся назіранне. Яны - лохі. Грамадская дзейнасць для іх паказуха. Ініцыяваць яны нічога не могуць, выдзеленыя ім грошы па праектах нясуць дамоў ці прапіваюць.*

Аркадзя з гэтай нагоды ахапіў істэрычны смех, але ён адразу супакоіўся, бо па праходзе паехала каталка з ежай, сокамі і сагравальнымі напіткамі. Нягледзячы на двухгадзінны пералёт да Франкфурта-на-Майне, пасажырам належала падсілкавацца і нават прыняць на грудзі. Андрэй выбраў курыцу, салату, апельсінавы сок ды глыкаючы сліну паглядзеў на 125 грамовую пляшачку "Уіскі".

Сцюардэса без слоў зразумела пажаданне пасажыра і падала заказ.

Антон сціпла прамовіў:

- Цвай!

Пажаданне было выканана. Астанія мужчыны дэлегацыі, акрамя Аркадзя, спыніліся на адной. Жанчыны смакавалі сухое віно. Агулам пералёт прайшоў у тры этапы: Франкфурт-на-Майне, Вашынгтон, Чыкага. На гэты конт Антон выказаўся так: "Не пералёт, а цуд. На кожным маршруце кармілі і паілі, паілі і кармілі. Так бы

лётаў і лётаў". Тым болей, што да Вашынгтона кармілі і паілі двойчы.

Доўгі пералёт урэшце скончыўся паспяховаю пасадкаю ў аэрапорце О'Хара. На гэты факт Антон, як чалавек творчы ды разагрэты тройчы двайной дозаю віскі, весела зазначыў: "Дык вось якая яна хара!". Далей быў сумбурны пагранічны кантроль, нуднае чаканне сваіх валізаў і, урэшце, глыток свежага паветра заакіянскай слыннай свабоды. Затым іх адшукалі кансультанкі Сюзана і Рой. Размаўллялі яны па-расейску сяк-так, і таму за справу ўзялася Сабіна. Антон нечакана запытаў:

- Кабрыялеты ў Чыкага ёсць?

На што Рой на поўным сур'ёзе патлумачыла:

- На кабрыялетах у нас ездзяць прастытуткі і афраамерыканскія бізнэсоўцы сярэдняй рукі.

Неўзабаве быў пададзены транспарт, і яны рушылі ў гатэль "Тэбалт". Для сяброў дэлегацыі з правінцыі ён падаўся надта шыкоўным, бо іншага дагэтуль ім не даводзілася бачыць: прасторныя нумары, ложкі, хоць у доўж ці поперак ляжы, душ, ванна ды бар з самымі разнастойнымі алкагольнымі напоямі. Наконт бара кансультанкі адразу папярэдзілі, што наведвальнікі плацяць за тое самі, а кошты кусаюцца. Пасля чаго беларусам засталося толькі спадзявацца на тое, што прывезлі з сабою.

Засялілі хутка па два чалавекі ў нумар, але арыгінальна: па даўно складзеных, як у саветаў, спісах. Жыць разам Андрэю і Аркадзю не давялося. Напарнікам Міклашэвіча па нумары быў Сяргей Ламейка.

Затым стажорам была прапанавана лёгкая позняя вячэра. Андрэй і Аркадзь пракоўталі па нейкаму гумоваму дэмакратычнаму бутэрброду, запілі сокам невызначанага колеру і без смаку ды падаліся ў нумар да апошняга. Пакуль калега па пражыванні Аркадзя разам з іншымі дыскутаваў ў кафэ наконт нашай і іхняй дэмакратыі, яны хуценька асушылі пляшку гарэлкі і распачалі гэткую дыскусію між сабою. Яна скончылася, як толькі ў нумар з'явіў Пётр Задавец. Андрэй вярнуўся ў свой нумар. Тое, што ён пабачыў, выклікала супярэчлівыя пачуцці: смех і жах. Смех ад таго, што чыніў сусед па нумары, а жах ад таго: ці не хворы ён на галаву?

Ламейка ляжаў на падлозе, наўкола валяліся кавалкі розных памераў бел-чырвона-белых стужак, якія ён рэзаў з вялізнага скрутка. Ад справы доўга не мог адарвацца, урэшце падняў галаву і зазначыў:

- Я тры маткі такой стужкі прыхапіў. Баюся, што мала. Раблю

з іх павязкі на галаву, шыю ды банцікі. Хай у Штатах ведаюць нашую сімволіку.

- Справа годная і вартая павагі, - на поўным сур'ёзе зазначыў Андрэй.

Не паспеў Міклашэвіч дагаварыць, як з падлогі ўскочыў на ногі Сяргей і пачаў прымяраць стужку на яго шыі. Было такое пачуццё, што гэтай стужкай яго пачнуць душыць. Пасля чаго шчыры папулізатар айчынных сімвалаў надалей стаў працягваць задуманае. Андрэй прыйшоў да свядомасці толькі пад душам, пасля чаго забыўся моцным дзіцячым сном. Спаў нядоўга, як узгадаваны ў вёсцы чалавек, прачнуўся ў шэсць гадзін ранку, ужо праўда, па іхнім часе. Выйшаў з гатэля, сеў у крэсла і пачаў назіраць, як па авеню на кабрыялетах гойсаюць белыя жанчыны і афраамерыканцы. Ранак быў душны. Тут ля яго паволі праходзіў мужчына гадоў пяцідзесяці ды мармытаў сабе пад нос. Выразна чуліся польскія словы.

Андрэй запытаў:

- Пан паляк?

Высвятлілася, польскі нелегальны эмігрант з дваццацігадовым стажам, але мае ў Чыкага працу і кватэру. Тут ён злавіў сябе на думцы, што Амерыка паўстала як краіна, дзе яе грамадства даўно рэалізавала асноўны пастулат камунізму аб роўнасці ўсіх нацый і народнасцей. Думкі пра амерыканскі камунізм давялося нечакана спыніць. Побач села Сабіна. Ноччу яе апанавалі разумныя мроі наконт сусветай дэмакратыі, але ранкам яна сказала ім: "Не на тую напалі" і пачала думаць, як звычайна. Яна, як сапраўдная машына кахання, прагла блізкага знаёмства і неймавернай блізкасці з супрацьлеглым полам. Да мужчынаў са складу дэлегацыі яна адразу паставілася абыякава, акрамя, чамусьці, Андрэя.

Першы дзень навучання - дзень знаёмства гаспадароў і гасцей.

Усе сабраліся ў вялікай аўдыторыі. Акрамя двух дзясятка беларусаў і беларусак, былі ўжо знаёмыя кансультанткі Сюзана і Рой ды дзве перакладчыцы: Ганна гадоў за пяцьдзесят, габрэйка, і таксама з выгляду габрэйка Таня Васэрман, якая ў свае 36 гадоў выглядала на няпоўныя 18: сярэдняга росту, танклявая, стройная, скура аддавала габрэйскай чарнявасцю ды супермадэльныя ногі бачныя з-пад кароткай спаднічкі.

*ЦРУ*
*Выключна сакрэтна*

*Асабістая справа Тані Васэрман*

*Нарадзілася па нашых звестках у Рызе. Чыстакроўная жыдоўка. У васемнаццаць гадоў з'ехала ў ЗША. Мае тры вышэйшыя адукацыі. Размаўляе на шасці мовах без акцэнту. Ведае яшчэ дзясятак. З'яўляецца афіцыйным перакладчыкам сенатараў і кангрэсменаў у іх замежных камандзіроўках. Несла службу ў ізраільскай арміі. Пасля заканчэння кантракту вярнулася ў Штаты. Маецца шмат даносаў і ананімак, што яна агент разведкі замежнай дзяржавы. Шматлікія праверкі тое не пацвердзілі, аднак назіранне працягваецца.*

Перад заняткамі адбылася адна акалічнасць, якая вельмі здзівіла гаспадароў. Госці ўмомант асушылі вялізную бутлю вады, што для кансультантак стала невытлумачальным.

На прэзентацыі-знаёмстве была яшчэ адна беласкурая маладзёна, але яе ніхто не прадставіў, і яна моўчкі ды сціпла сядзела ў куточку на крэселцы ды лыпала вачыма па ўсіх. Міклашэвіч адразу адзначыў для сябе: нешта тут не тое, у ціхім балоце і чэрці водзяцца.

Надалей справа паўстала гасцям прадстаўляцца. Яны па чарзе называлі сябе ды выказвалі пажаданні, у якім накірунку хочуць займець вопыт дэмакратыі. Беларусы - народ багаты на фантазію, і таму іх пажаданняў было шмат, як зорак на небе ці жабаў у балоце. Кароткі выступ Міклашэвіча здзівіў усіх прысутных:

- Якой была дэмакратыя ў Штатах сто гадоў назад, я ведаю, таму хачу даведацца, якой яна стала зараз.

Пачулася аднагалоснае: "Адкуль?". Не мяняючы выразу твару і інтанацыі Андрэй дадаў:

- Дзед мой на працягу дзесяці гадоў працаваў сталеварам у Бостане ды пакінуў шмат успамінаў.

Беласкурая маўклівая маладзёна нешта пазначыла ў занатоўніку.

Для акліматызацыі на працягу трох дзён стажоры жылі і харчаваліся ў гатэлі. Два дні вечарамі пілі прывезеную з сабою гарэлку, але яна скончылася, ці рэшткі яе былі прыхаваныя да лепшых часоў. На трэці дзень нечакана з'явілася "халява". Пасля заканчэння заняткаў Таня Васэрман прапанавала паспрабаваць каліфарнійскага

сухога віна, прычым, дарэмна. Яго дэгуставалі штодня ў холе гасцініцы "Алегра", акрамя выхадных, з пяці да шасці па абедзе. Усе паставіліся да прапановы скептычна; хаця, хто яго ведае, што могуць гэтыя капіталісты выдумаць: у іх за так нічога не бывае. Хітрык уладальнікаў гатэля быў просты. Напачатку яго пастаяльцы і наведвальнікі рэстарацыі разаграваліся лёгкім віном, а потым у бары ці самой рэстарацыі размякчэлыя лёгкім алкаголем душы адцягваліся напоўніцу. Толькі Андрэй аднёсся да прапановы належным чынам. Пасля ўчарашняга надта балела галава. Балела так, што ні аб чым не магла думаць, таму ён паверыў Таццяне і рашуча пакрочыў за перакладчыцай. Яго ніколькі не цікавілі тыя выкрунтасы, якія тварыла сваімі яклубамі перад ім былы сяржант ізраільскай арміі. Праўда, у яе гэта атрымлівалася цудоўна. Ля ўваходу ў гатэль кабета спынілася.

- Я іду на пляж, а вам туды.

Разгубленасць зноў ахапіла стажораў. Але такі варунак справы ніколькі не спыніў баявых памкненняў Андрэя. З таго запасу англійскіх слоў, што давялося засвоіць яму школе, на першым месцы заставалася бадай што "гудбай!". Ён паспешна падзякаваў Васэрман і рашуча ступіў у цёмную бездань дзвярэй гатэля. Баязліва азіраючыся, за ім рушылі ўсе астатнія. Гэтак жа бяздумна і нахабна ён паводзіў сябе надалей. Хуткім крокам падняўся па лесвіцы на другі паверх і апынуўся ў вялікай зале. На сталах ля вакна стаялі пляшкі белага і чырвонага віна. Як яго замовіць, шчыры беларус не ведаў, і таму спыніўся ля афраамерыканца, які меў крухмальна-белую сарочку і фрак колеру сваёй скуры: толькі белая бляшка на грудзях сведчыла, што зваць яго "Вілі". Вілі нешта запытаў наведвальніка і не чакаючы адказу наліў бакал чырвонага віна. Піліпчук таксама паказаў пальцам на пляшку чырвонага. Сем наступных сяброў "па халяве" пальцамі зрабілі тое ж самае. Дзясяты вырашыў паразумнічаць і паказаў пальцам на белае.

Пачынаючы з таго вечара, стажоры не прамінаеі і дня, каб не пасядзець там гадзіну часу, пакуль не пусцелі выстаўленыя на стол пляшкі. На тым "халява" абламвалася.

Тым не менш жыццё стажыроўшчыкаў ішло сваім ходам. Ранкам пасля сняданку ў першы дзень заняткаў Сяргей Ламейка вырашыў даследаваць бліжэйшыя ваколіцы "Тэбалта". Прайшоўшы два кварталы, ён адзначыў для сябе, што на кожным скрыжаванні стаяць жалезныя скрыні, поўныя газет, рэкламак і іншай друкаванай прадукцыі. Яшчэ звярнуў увагу, што высачэзны афраамерыканец

даследуе гэтыя скрыні і нешта адбірае для сябе. Тое засталося б па-за ўвагаю стажора, каб па дарозе на заняткі ён не пабачыў гэтага чалавека са стосам макулатуры ля ўваходу ў суседні гатэль. Афраамерыканец стаяў там жа, калі яны подбегам ішлі на абед і нешта паказваў белай кабеце, што выйшла з гатэля. Сумневу не было - вулічны гандляр. Хутка, але грунтоўна паабедаўшы ды прыхапіўшы з сабою некалькі бутэрбродаў, Сяргей рушыў да прадаўца. Ён узяў з сабою па аднаму значку з дзесяці відаў, што былі ў яго, бел-чырвона-белыя стужкі і сцяжок ды яшчэ некалькі відаў прадукцыі, што перадаў прапаршчык. На каравай ангельскай мове школьнага навучання савецкіх часоў ён назваў сваё імя, афраамерыканец у адказ сваё.

- Jacob! - шчэрыў афраамерыканец свае белыя, як снег, зубы і тыкаў пальцам сабе ў грудзі. Тыкаў так, што амаль не зламаў яго.

"Якуб" - на беларускі манер пераклаў гэта імя Ламейка. У знак братэрскага хуткага паразумення шчыры беларус павязаў на галаву Якуба бел-чырвона-белую стужку. Святы атрыбут краіны васількоў надаваў далёкаму патомку афрыканскай саваны непаўторны выгляд, а кабета, якая праходзіла побач, з гэтае нагоды падняла палец уверх, чым выказала сваё ўхваленне. Радасці Якуба не было мяжы, і ён выканаў векавы рытуальны танец свайго племя. Затым Сяргей перадаў свайму новаму знаёмаму іншую прадукцыю, але патлумачыць, што яе неабходна прадаваць не змог, бо не ведаў як.

Другую палову дня Ламейку мучылі сумневы, што атрыбутыка безнадзейна згублена. Тым часам у Якуба адбылося нешта неверагоднае. Міма праходзіла каля дзясятка людзей сталага веку - турысты з Аўстраліі. Адзін з іх звярнуў увагу на стужку на галаве Якуба ды паведаў аб тым сваім калегам. Турысты, эмігранты паваеннага часу, умомант акружылі прадаўца ды пачалі разглядваць тавар, наперабой выказваючы сваё здзіўленне і задавальненне. За значок менш пяці даляраў не давалі, нешматлікія стужкі пайшлі за дзесяць, малюнкі - ад трыццаці да пяцідзесяці. Сувеніраў усім не хапіла, і турысты пачалі ўпрошваць Якуба, каб ён прынёс тавар яшчэ ды запісвалі нумары ў гатэлі, дзе жылі.

Па заканчэнні вучобы і па вяртанні ў "Тэбалт", Ламейка здалёку пабачыў Якуба, які з выглядам правадыра афрыканскага племя, сядзеў у крэсле ля ўваходу. Афраамерыканец памахаў яму перад носам стосам даляраў, а пальцамі паказаў: давай прадукцыю яшчэ. Грошы пералічылі ды падзялілі пароўну. Другі транш атрыбутыкі быў больш аб'ёмным. Вечарам зноў была дзяльба "зялёных" і выдача тавару.

Так пачалося навучанне афраамерыканца беларускай мове ды яшчэ геаграфіі. Якуб матаўся па іншых гатэлях Чыкага, даведваўся з якога рэгіёна зямной кулі тут турысты, якія могуць купіць у яго тавар. У Ламейкі была свая дзялянка ў гэтай камерцыі. Напачатку Сяргей з Якубам рэалізоўвалі прывезеную ім сімволіку, затым ён стаў выпрошваў у калег па дэлегацыі беларускую атрыбутыку. Тыя напачатку адмаўлялі яму, але з цягам часу яна стала ім непатрэбная, і з задавальненнем аддавалі. Толькі аднойчы на настойлівыя просьбы Сяргея Андрэй з'едліва заўважыў:

- Мала рулонаў стужкі ты ўзяў.

Знаёмства гаспадароў і гасцей ішло сваёй чаргою. Сяргей Ламейка папрасіў толькі паўхвіліны ўвагі і адразу пачаў гаварыць пра беларускую мову, яе гаротны стан. Гутарку пачаў з сівой заімшэлай даўніны, з Ефрасініі Полацкай, і закончыў шчаслівым момантам прылёту на свяшчэнную зямлю далавараў. Гаспадарам здалося, што колішнія тыбульцы гэтае зямлі тысячу гадоў таму назад мелі самые цесныя сувязі з беларусамі. Увогуле, ўсё, што датычыла Беларусі і беларускасці, было для яго святым. Кожны раз пры абмеркаванні беларускіх пытанняў вочы яго гарэлі незвычайным і непаўторным бляскам, быццам у галоднага сабакі на абгрызеную костку.

- Вось праз два гады ў мясцовым універсітэце адчыніцца аддзяленне беларускай мовы.

Перакладчыца Таня цяжка сапла і маўчала. Такога нахабства яна не сустракала даўно. Прыстойней было чуць ад амерыканскіх будаўнікоў, што ў абед перакурваюць на якой-небудзь стрыт, прапановы на "чыкі-чыкі", чым такое. Кожны другі ў Чыкага - іх чалавек, але не ў адным з шасці ўніверсітэтаў няма аддзялення ні іўрыту, ні ідышу, школы нядзельныя, праўда, ёсць. Коля Сцепасюк з Берасця пачухаў брытую галаву, на якой за тыдзень абазначылася атава і з усмешкай дадаў:

- І негры будуць размаўляць па-беларуску?

- Вядома, будуць! Яшчэ як будуць! - у Сяргея пачалі вырастаць крылы. - Вось сёння мой новы сябра афраамерыканец Якуб сказаў па-беларуску: "Добра".

Аркаша шкрабануў пецярнёй падбароддзе, як кот калі там завялія блохі, і гігікнуў. Услед за ім рассмяяліся прысутныя. Ламейка таксама рассмяяўся. Смяяўся ён гучней за ўсіх. Гэта яшчэ болей распаліла вясёласць аўдыторыі.

Самай каротка была прамова Андрэя Міклашэвіча:

- Што казаць пра Беларусь - трэба яе бачыць, роўна, як не

пазнаеш Амерыкі - не наведаўшы "Алегра".

Выкладчыкі пагадзіліся з такім выказваннем, а слухачы гучна запляскалі ў ладкі.

Апошнім выступоўцам быў Пётр Задавец. Ён таксама, як сціплы беларус, папрасіў толькі адну хвіліну на выступ. Пранікнёна гаварыў цэлыя дзве гадзіны. Таксама, як і належыць беларусу, пачаў з далёкай-далёкай даўніны - са з'яўлення на абшарах цяперашняй Бацькаўшчыны радзімічаў, дрыгавічоў, крывічоў, толькі апакінуў па-за ўвагаю іх бузаванне між сабою, але, як і належыць выкладчыку інстытута, удакладняў папярэдняга выступоўца па кожным пункце яго выказванняў. Трэнеры ўважліва і цярпліва слухалі прамоўцу. Перакладчыкі мяняліся кожныя дзесяці хвілін. Сябры па дэлегацыі напачатку гігікалі. Гігікалі гадзіну, другую. Потым стаміліся ды пачалі стукаць пальцамі па сваіх гадзінніках, напамінаючы, што час ісці ў "Алегра". Толькі гэтыя жэсты Пятра не кранаалі. За 10 хвілін да пачатку прэзентацыі дарэмнага каліфарнійскага віна ў "Алегра" Задавец закончыў свой расповед. Сюзана і Рой з палёгкай уздыхнулі, падзякавалі выступоўцам за іх вельмі кароткія, але змястоўныя выступы, прапановы ды паспешна пачалі збірацца дамоў. Сяргей хутка пачаў соўваць выкладчыкам значкі ТБМ, а Пятро - уручаць бел-чырвона-белыя сцяжкі.

- Вось гэты знак прыдумаў наш першадрукар Францішак Скарына, - цвердзіў Сяргей.

- Пад гэтым сцягам нашыя продкі хадзілі на Грунвальд, - адначасова казаў Пятро.

Таня не ведала, каго перакладаць. Астатнія стажыроўшчыкі ўжо стаялі за дзвярыма і круцілі пальцамі ля скроні. Урэшце Андрэй не вытрымаў і звярнуўся да Аркадзя:

- Пайшлі! Я болей трываць не магу.

Той адразу пагадзіўся. За імі рушылі астатнія. Ішлі шпарка, спяшаліся, нягледзячы на чырвонае святло пешаходам, тлустая афрамерыканка-паліцэйская спыніла натоўп аўтамабіляў і прапусціла бегшых сербануць дырэмнага кіслага каліфарнійскага віна беларусаў.

Расслабіліся толькі ў холе гасцініцы. Няспешна падняліся на другі паверх і застылі ў роспачы. Сяргей прышчэпліваў Вілі значок ТБМ, а Пятро павязваў на галаве негра бел-чырвона-белую стужку. Вілі быў на сёмым небе ад такой павагі да сваёй асобы і таму наліў ім у бакалы цераз край. А праз некалькі хвілінаў паставіў на стол пляшку чырвонага віна. Калегі па стажыроўцы маўкліва занялі канец

доўгай калейкі.

Выплачаны ў чацвер першага тыдня аванс у некалькі соцень даляраў, дзеля таго каб стажыроўшчыкі, перад тым, як пайсці жыць на прыватныя кватэры ды дабірацца туды за свой кошт і харчавацца за ўласныя грошы, падзялілі ўдзельнікаў на дзве паловы: адны ставіліся да тых выплат па прынцыпу: "як прыйшлі так і пайшлі", іншыя ашчаджалі кожны цэнт. Каб зэканоміць пару дзясяткаў цэнтаў на паездцы ў метро, апошнія пачалі хадзіць пешшу ранкам і вечарам ў абодва бакі па пяць вёрст. Не сталі абедаць у так званай іхняй "фабрыцы-кухні" з пасадачымі месцамі на некалькі тысяч чалавек, дзе абед у палову курыцы вагою болей за кіло (хаўп чыкан, як прамаўляў падчас замовы Антон), смажанай кубікамі бульбы ды салаты з колай каштаваў не болей за чатыры даляры. Калорый было столькі, што не хацелася ранкам есці Джонавы тостары. Вось толькі наведаць пасля заняткаў "Алегра" ніхто не прамінаў. Тут была "халява". Антон, па завядзёнцы, распачынаў дэгустацыю з чырвонага віна. Ад першага глытка моршчыўся, як мочаны яблык, але хутка асушваў бакал і надалей піў як чырвонае, так і белае віно без разбору, пакуль налівалі. Астатнія пілі ўсё, што траплялася пад руку.

Аднак вернемся крыху назад.

Пасля наведвання банка і атрымання кэшам за тыдзень "зялёных", распачаўся яшчэ адзін рытуал сярод навучэнцаў: іх пачалі размяркоўваць сярод гаспадароў, дзе ім належала жыць астатак стажыроўкі. Андрэй той працэс ахарактарызаваў ёмка і коратка: "На пастой". Іх адвезлі на офіс арганізацыі. Там дэлегацыю чакалі незнаёмыя цёткі, дзядзькі і старэчыя сямейныя пары. Знаёмствы былі бурныя, радасныя, час ад часу пераходзячыя ў лямант. Новыя знаёмцы раз'язджаліся хутка, і на офісе станавілася прасторней.

Да Андрэя ніхто не падыходзіў, і ён гадаў, у чым завінаваціўся, што нікому не патрэбен. Калі ўсе раз'ехаліся, з суседняга пакоя выйшаў высокі светлавалосы і шыракаплечы мужчына, шчыра ўсміхнууся, працягнуў руку ды паважна сказаў:

- Прафесар Джон Стоўн!

Міклашэвіч у адказ падаў руку і назваў сябе:

- Андрэй!

У гэты моман ён чуць не рассмяяўся з нагоды такога знаёмства, бо яму ўраз прыпомніўся анекдот студэнцкіх часоў, які чымсьці нагадваў гэтую сустрэчу. А соль таго жырту такая: ранкам на ганак асабняка выходзіць здаравенны сабачара. Побач прабягае маленькі

неахайны дваравы сабачка. Бульдог з пачуццём уласнай годнасці: "Гаў-гаў! Я дэберман пінчэр, а ты хто?". Дварняга, азірнуўшыся па баках, адказвае: "А я так, папісаць!"

У гэты момант з таго пакоя выйшлі два кучаравыя і чорныя як смоль дзесяцігадовыя хлапчукі. Джон назваў іх імёны:

- Джым, - паказаў ён на вышэйшага і хударлявага хлапчука і, узяўшы за плечы другога, адрапартаваў: - Арнольд!

-Дзеці Джона, - патлумачыла перакладчыца Таня.

Гэта нiколькі не здзівіла Міклашэвіча, бо змешаныя шлюбы для Штатаў - звычайная з'ява. Ён толькі для сябе адзначыў: "Вазілі рабоў з Афрыкі, вазілі і давазіліся. Так вам і трэба!".

Андрэй узяў свае рэчы (ад дапамогі Джона далікатна адмовіўся), і яны выйшлі на вуліцу, прайшлі паўквартала і апынуліся на станцыі мэтра. Агулам у Чыкага тры віды метро: падземка мае назву метро, на паверхні - мэтра, а ёсць яшчэ падобны від транспарту на бетонных сваях. Ёсць лініі, якія спалучаюць усе віды руху. (Аб усім тым ім распавядалі куратары.) Ехалі паўгадзіны часу. Джон нешта намагаўся казаць, але ведаў ён расейскую мову слаба, а Андрэй яшчэ горай - ангельскую. Атрымлівалася гутарка глухога са сляпым.

Да двухпавярховага хаўза прафесара Джона Стоўна ад прыпынку было хвілін пяць хадзьбы. З правага і левага боку стаялі амаль аднатыпныя асабнякі. Акурат - двухпавярховая Амерыка ці аграгарадкі Беларусі. Здзіўленню Міклашэвіча не было мяжы, калі ён пабачыў жонку гаспадара. Гэта была сярэдніх гадоў белая жанчына, а не чарнаскурая, якой уяўляе яе госць. Гаспадыню звалі Хелена. Напачатку Андрэй, як настаўляла яго "Тормаз ад "БелАЗа", зрабіў гаспадарам падарункі з абавязковым уручэннем пляшкі выбітнай беларускай гарэлкі вытворчасці завода "Крышталь". Затым кватаранту паказалі дом і пакой, дзе ён будзе жыць. Пакой быў прасторны, месціўся на другім паверсе і спадабаўся яму. Пасля чаго гаспадары запрасілі кватаранта за стол. Хелена хутка выставіла каву, а Джон - рэзаны тонкімі скібкамі белы хлеб, набыты ў краме, паставіў у невядомую Андрэю машыну. Імгненне вока яна выплёўвала смажаныя лусты. Гаспадар назваў іх тостэр.

Аднекваціца ад невядомай стравы (хоць Міклашэвіч вельмі паважаў нашыя грэнкі - смажаны хлеб) не дазвалялі нормы прыстойнасці. Адно што падумалася госцю, каб да смажанага хлеба заміж кавы падалі "кілапару зубы папаласкаць". Так маці яго называла казённы бульён, дзе на паверхні кіпня плавалі тлушчавыя скалкі і нічога болей. Для яе гэта быў не бульён, бо у ім не было ні

адной хаця б бульбіны і сапраўднай скваркі.

За сталом Джон патлумачыў Андрэю, што яны выкладчыкі ў адным з чыкагскіх універсітэтаў, а паколькі цяпер студэнцкія канікулы, то яны ў адпачынку. Пасле паядання тостараў (паколькі гаспадыня ні ў зуб нагою не разумела па-расейску) Джон паказаў звонку дом, падвор'е і, як мог, распавядаў аб усім. Затым ён пайшоў рыхтаваць вячэру. У невялікую на жалезных нагах з бляхі бочачку на пруты паклаў кавалачкі мяса, курыныя крыльцы і скрыжалкі рыбы. Пад нізам распаліў спецыяльнае вуголле. Цывілізацыя! Падумалася Андрэю: "Мы па лесе для вогнішча голле збіраем, а яны купляюць вуголле спецыяльнага вырабу. І на гэтым можна рабіць бізнэс!".

Паядаючы ў альтанцы смажаныя кавалачкі мяса, курыцы, рыбы, запіваючы колай ды хвалячы страву, Андрэю падумалася, што пры такім сталаванні ён на бацькоўскім хутары на сенажыці касы не пацягнуў бы. Еў і асцярагаўся, каб страўнік не распачаў рэвалюцыю ад спалучэння мяса і рыбы ды цешыў сябе надзеяю, што прыбіральня супольна з душам была побач з яго пакоем. Як што, калі пастарацца, можна дабегчы. Вопыт паядання рыбы і мяса ў Міклашэвіча быў вялікі, але толькі ў іншым спалучэнні: юшка і шашлыкі, багата аздобленыя алкаголем.

Страўнік паспяхова справіўся з экзатычнай вячэраю ды яшчэ без кроплі алкаголю, а ранкам яго чакалі тыя ж кава і тостэр, а на вячэру зноў барбекю, але ў гэты раз ужо з дадаткам не менш як пляшкі каліфарнійскага віна ў "Алегра". Андрэю стала млосна ад такога меню, і ён вырашыў знайсці спосаб, каб пазбавіцца ад сняданка і вячэры, тым болей, што абед з "хаўптчыкан" з бульбаю надаваў калорыі на суткі.

На наступны дзень кансультанты распачалі пытаць стажораў, якія стасункі яны займелі з гаспадарамі. Асабліва радавалася Сабіна, бо ў сваёй гаспадыні яна займела "сваяцкую душу". Відаць, кабеты ўсюды аднолькавыя, што на Беларусі, што ў Штатах: любяць памянціць языком. Сабіна паведаміла, што зваць гаспадыню Караліна, а нумар машыны адпавядае яе імя. А, галоўнае, Караліна на выходныя з'язджае ў Каліфорнію да жаніха, і Сабіна - паўнаўласная гаспадыня шыкоўнага асабняка. Рой запытала ў Андрэя:

- Як вам гаспадары?

На што апошні адказаў са шчырай праматой, якая межавалася з прыколамі.

- Універсітэцкая прафесарская наменклатура. Куды мне калгасна-сялянскаму хлопцу да іх.

Рой збянэжылася і патлумачыла:

- Джон ніякі не прафесар, а звычайны выкладчык універсітэта, а Хелена - яго асістэнт.

- Вось так, шаноўныя, і тут плятуць лапці смалянога дуба не горай як у нас, - зазначыў Міклашэвіч і запытаў. - Я б хацеў ведаць, як у белых людзей нараджаюцца чорныя дзеці?

- Яны не родныя. Іх усынавілі. Адбываецца тое, калі ў сям'і не атрымліваецца завесці сваіх дзетак. Тут гэты працэс вельмі складаны. Каб дзеткі не былі траўмаваныя, ствараецца адпаведная легенда, што гэтыя людзі сапраўдныя іх бацькі. Перасяленне навучэнцаў прайшло паспяхова, тым былі задаволены куратары.

Пад час перапынку Сабіна падышла да Андрэя і зазначыла, што на выходныя яна застаецца адна. Ад такой сціпласці кабеты яму стала млосна.

Паважанай асобай сямейства, дзе жыў Андрэй, быў мардасты шэра-белы кот. Ён еў толькі сухі корм і запіваў купленай спецыяльна яму безгазавай вадою. Як толькі Андрэй даведаўся пра тое, адзначыў для сябе: да чаго дайшла амерыканская цывілізацыя за сто гадоў пасля дзеда, нават для катоў гатуюць спецыяльную ваду. Неяк смакуючы колу і хрумстаючы тостары, Андрэй даведаўся ад Джона, што ў ката, каб не псаваў сцены і мэблю, вырваны кіпюры, а каб не арашаў вуглы кватэры - выразалі машонку. І гэта ён прадэманстраваў на кацяры госцю, зусім як у беларусаў, узяўшы яго за шкірку. Цяпер для ката тры жыццёвазажкія аб'екты: міса для яды, місы для піцця вады ды пісання і какання. Месца для адпачынку выбіраў ён сам, але не далей кухні. Кот - поўны гультай. І ў гэтым Андрэй упэўніўся неўзабаве. Аднаго разу ранкам Джон павёз у школу давучвацца Арнольда, Хелена некуды з'ехала з Джымам, а Міклашэвіч застаўся адзін і збіраўся пайсці на заняткі. Ён спусціўся ў сталовую, але не захацелася піць пакінуючы яму каву і хрумстаць тостэр, крыху таўсцейшы за аплатак. Тут ён пабачыў відовішча, што неймаверна здзівіла яго.

На падваконні ляжаў кацяра, плюшчачы вочы ад зыркага ранішняга сонца. На другім баку вакна, прама за шыбаю скакаў амерыканскі верабей: скура ды пер'е. Туды-сюды, туды-сюды. Кот расплюшчыў адно вока, абыякава паглядзеў на танцы вераб'я за акном ды заплюшчыў яго. Па ўсяму бачна было, што птушка яго ніколькі не цікавіць.

Першая субота ў Штатах для навучэнцаў выпадала вольнай.

Стажыроўшчыкам прадставілі гэты дзень дзеля таго, каб правесці яго ў сям'і гаспадароў, даведацца, як яны адпачываюць, праводзяць свой вольны час. Андрэю хапіла гэтага тыдня, каб усё тут пазнаць, бо ў гаспадароў-прафесараў - Джона і Хелены - быў трохмесячны адпачынак - вакацыі, і таму, ён, як падумаў, што ў чарговы раз давядзецца есці барбікю, тлумачыць трыма ангельскімі словамі, хто ты і адкуль незнаёмым цёткам і дзядзькам, якім тое не патрэбна, дык адразу сам сабе сказаў "не". Іх ужо чакаў калега Джона па ўніверсітэту на сваёй віле, але госць зрабіў кіслы выгляд, спаслаўся на тое, што блага сябе адчувае і хоча пабыць адзін. Хелена яму параіла прагуляцца ў суседнім парку, бо там нельга выгульваць сабакаў і таму чыстае паветра. Гаспадары з'ехалі. Заставацца цэлы дзень у душным доме таксама не было ніякай радасці, як і гуляць у тым парку, дзе нельга сабакам. Тут ён успомніў, што апоўдні сёння запрасіла ўсю дэлегацыю да сябе сям'я беларускіх эмігрантаў часоў вайны Зоф'я і Славамір Карэньчыкі. Учора ён адмовіўся ад тае сустрэчы, бо даводзілася мець такія ў роднай Беларусі, калі гутарка ідзе ў адным рэчышчы: дзе, калі і як ды толькі пра Беларусь. Тут, як і там, яна будзе толькі пра мову, Бацькаўшчыну і ўсім, што звязана з гэтым. У яго ад такіх гутарак пасля пятай хвіліны заўжды хацелася да ветру, і называў такія тусоўкі Андрэй не інакш, як "пах выкапнёвых мамантавых шлакаў". Сітуацыя недарэчная: варта хоць нечым заняць сябе. "Давай схаджу, можа аладкамі накормяць", - прамовіў ён пра сябе і чамусьці патэлефанаваў на кватэру Пятру Задаўцу, да якога не меў ніякіх сімпатый. Той здзівіўся ды на поўным сур'ёзе запытаў: "І ты на халяву блінцоў паесці хочаш?" Андрэй заўжды жыў неспадзяванкамі і быў непрадказальны. Так было і ў гэты раз. Нечакана ў яго ўзнікла жаданне змяніць цішотку і ён засунуў руку на дно дарожнай сумкі. У гэты момант пальцы наткнуліся на нешта халоднае і слізкае. Ён паспешна выцягнуў руку. На ілбу выступілі кроплі халоднага поту. Гадзюка!!! Цела ахапілі дрыжыкі. Што рабіць? Выклікаць паліцыю? Як, не ведаючы мовы, ён ім патлумачыць прычыну выкліку? Пасля хвіліны ваганняў вырашыў дзейнічаць сам. На кухні знайшоў нейкі сякач, узяў яго ў адну руку, а ў другую доўгі кіёк ды пачаў ім выкідаць рэчы з сумкі. Калі большая частка іх валялася на падлозе, піхнуў сумку на бок. Адтуль выкацілася двухлітровая пластыкавая пляшка з празрыстай вадкасцю.

-Ба! - крык Андрэя быў падобны на баявы вокліч воінаў далавараў, калі яны прыносілі скальп белага ў свой лагер. - Родненькая, пушчанская!

Цяпер усё стала зразумела. Рэчы ён спакаваў амаль месяц назад і ў гэты час з яго загашніка знік падарунак сябра са Свіслачы, што на Гарадзеншчыне. У галаве тады паўстала дурная, пякучая думка: "Родная жоначка перахавала ў надзейнае месца і забылася!" Аднак, яна з нейкай нагоды перахавала ў ягоную сумку. Ах, "Тормаз ад БелАЗа"! Цяпер "Тормаз ад БелАЗа" быў самым родны і блізкім яму чалавекам на свеце. Міклашэвіч закінуў пляшку ў невялікую сумку і дадаў да яе абрэзаную бляшанку з-пад кока-колы. Андрэй і Пятро сустрэліся ля фондавай біржы. Да прызначанага тэрміну было яшчэ шмат часу, таму падаліся на бераг Мічыгана. У Андрэя быў цудоўны настрой. Пётр, наадварот, быў нечым заклапочаны.

- Што ў цябе здарылася?

Пасля некаторага роздуму Пётр выпаліў:

- Дык вось ужо трэцюю ноч сню, што мая жонка з неграм спіць.

- А хіба ў нас на Беларусі белых брак?

- З белым можна… Але ўсё роўна, прыеду, заб'ю.

- Дык ты тады афраамерыканку зацалуй.

- Я б ад белай не адмовіўся.

- Не хвалюйся. Я твае праблемы сёння ўладжу. А цяпер давай гэтую справу абмыем.

Седзячы пад нейкім дзіўным дрэвам з відам на возера Мічыган за некалькі крокаў ад трох паліцэйскіх, якія аб нечым горача спрачаліся, Андрэй дастаў з сумкі пластыкавую пляшку з налепкай "Дюшэс" і наліў у падрыхтаваю бляшанку "пушчанкі" ды падаў Задаўцу.

- Не затрымлівай посуд.

Паліцэйскія толькі здзіўлена паглядзелі на мужчынаў, што паспешна папілі вады, абцерліся рукавом і цяпер прыемна аблізваюцца.

Спазніліся на гадзіну часу. У Карэньчыкаў было ўсяго пяць чалавек з дэлегацыі. Андрэй, які дзень назад абяцаў Сабіне найсці сабе замену, калі адмовіўся ўчора ехаць з ёю ў адно месца, пасадзіў побач Пятра і шапнуў:" Глядзі, каб усё было добра!"

Дом як дом, нічым асаблівым не вызначаўся і нічым беларускім тут не пахла, акрамя, хіба, звычайнага дыму ад апарата па гатаванні барбікю. Заглянуўшы на пруты, Андрэй пабачыў пакладзеныя ўперамежку кускі рыбы, мяса, курыцы і яму ад той амерыканскай стравы, якой частавалі яго штодзёна, стала млосна. На стале ляжала некалькі экзатычных лістоў зеляніны ў якасці салаты і стаяла

пляшка віна, ад якога ў мексіканцаў псуецца страўнік. Аб тым яму сказала перакладчыца.

-А дзе блінцы? - толькі і выціснуў з сябе Міклашэвіч, бо зразумеў, што і гэты час згублены дарэмна.

Ён за свой жаласлівы парыў душы адразу атрымаў адлуп ад прысутных.

- А ты думаў, што табе тут рэстарацыя?

- Мы сабраліся дзеля сустрэчы з нашымі землякамі. Ты ведаеш, як тут ім цяжка на чужыне.

- Прыйшлі дзеля таго, каб пачуць беларускае слова ад знакамітай паэтэсы.

- Распавядаць, як мы там жылі пад бальшавікамі і як жывем зараз у вольнай краіне.

Адным слова, прысутным калегам, на яго думку, патрыятычны туман на чужыне затлуміў розум. Яскравей за ўсіх гаварыў Сяргей Ламейка. Каб не слухаць моўную вольнасць суайчыннікаў, Андрэй адышоў убок і стаў назіраць здалёк, што тут будзе адбывацца далей. Шчыры беларус Ламейка і надалей працягваў размаўляць са шчырай беларускай замежнай гаспадыняй. Вайтовіч ладзіў купленую ў нейкага мексіканца, продка невядомага племя тутэйшага люду, гітару за 200 даляраў і чакаў таго моманту, калі яму будзе дадзена слова. Пятро гладзіў калені Сабіне. Астатнія перашэптваліся паміж сабою. А ўсе разам чакалі таго часу, калі гаспадыня пакліча да стала. Гутарка Зоф'і і Сяргея доўжылася паўтары гадзіны, і не было бачна ёй канца. Суразмоўцы іншы раз пераходзілі на спевы. Асабліва непаўторна гэта атрымлася ў гаспадыні, калі яна завяла: "У лясочку на пянёчку". Завыў суседскі сабака.

Стары Славамір слыў знакамітым у эміграцыі мастаком і таму кожнага з гасцей паасобку клікаў у галярэю сваіх сусветнавядомых твораў, якія ніхто не купляў. А заадно і пахваліцца сваім домам. Урэшце ён падышоў да Андрэя і запрасіў паглядзець яго неўміручыя палотны ды па-простаму запытаў:

- Як табе наш дом?

- Дом як дом. Вось толькі барбікю ваша згарэла.

Гаспадар хуценька падбег да кабеты, нешта пашаптаў на вуха і тая пачала запрашаць гасцей да стала. Дзед вярнуўся да госця і прапанаваў далучыцца да кампаніі.

- Я вуглі не ем. Лепш пакажыце свой дом.

Увайшлі. Славамір даволі такі на чыстай беларускай мове распавядаў і паказаў, дзе ў іх гасцінная зала, спальня, а калі зайшлі на

кухню, госць нечакана запытаў гаспадара:

- Ты ведаеш, што такое пушчанская самагонка?

Тут, як у ліхаманцы, Славамір затрос галавою.

- Канешне. Калі гэта было. І я мог бы зараз цяпнуць чарку-другую.

- А будзеш?

Ад гэтае прапановы стары закалаціўся яшчэ болей усім целам ды выпусціў з рук бел-чырвона-белы сцяжок.

- Ты, дзед, не кідай болей на зямлю святыя рэчы, а хутчэй цягні шклянку. Шклянкі не знайшлося, але прыдатнай да справы была вялізная куфля. Славамір перакуліўшы сто пяцьдзесят грамаў даўно забытага бацькоўскага напою павесялеў.

- І я не магу штодня пра гэтыя дубочкі і пянёчкі слухаць, - шчыра прызнаўся гаспадар.

Рука яго пацягнулася да пластыкавай пляшкі. Чарговую норму дзед таксама выпіў у ахвоту ды і адразу асалавеў. Славаміра (у дзяцінстве Чэсь) панесла. Ён выйшаў на ганак і затанчыў з прыпеўкамі на манер Зоф'іных вершаў:

- *Як я села на пянёчку,*
*Ды задзерла ўверх сарочку,*
*І вышай пупочка…*

Потым нырнуў страматыч галавою з ганка на кветнік, падняўся і давай танчыць далей, старанна вытоптваючы кветкі і рыфмавана распавядаць, што ў іх было з Зоф'яй на радзіме па маладосці ў лясочку на пянёчку. Толькі не дасказаў, стаміўся, сеў на зямлю. Госці аднеслі гаспадара дамоў і паклалі на канапу. Воляй няволяй настаў час развітвацца. Гаспадыня падзякавала ўсім за шчырую гутарку і зазначыла:

- Шкада, як хутка праляцеў час. Сябры! Усім, хто прыходзіць на сустрэчу са мною, я ахвярую па даляры дзеля святой справы вызвалення нашае Бацькаўшчыны ад розных хімер.

Кампанія прыпынілася і пачала чакаць абяцанае ўзнагароды, але тут жанчына дадала:

- Забылася сказаць. Грошы перадам праз тыдзень.

Сем чалавек моўчкі выйшлі за веснічкі. На століку засталіся неадкаркаваная пляшка віна, спаленыя барбікю і невядомага паходжання лісты салаты. Пётр і Сабіна адразу некуды зніклі. Антон усю дарогу "шчыра" дзякаваў гаспадыню за запрашэнне, смачны пачастунак, ды казаў, каб "яна падавілася тым далярам". Астатнія

моўчкі пагаджаліся з ім. Па растанні Андрэй папрасіў Аркадзя застацца, бо быць у выходны дзень у чужым горадзе аднаму яму не хацелася, тым болей, што сумленне муляла недапітая пушчанка. Аркадзь ніяк не мог супакоіцца ад такога заканчэння сустрэчы і пра сябе гаварыў:

- Нічога не разумею, што здарылася са старым. Быў чалавек, як чалавек. А тут - на табе. Хворы, відаць.

-Так, - на поўным сур'ёзе падтрымаў гутарку Андрэй. -Прыпадачны. Як прыпадзе, не адарваць.

- Нешта я такога пра Славаміра не чуў, - сумеўся суразмоўца.

- Не чуў, дык пабачыў, - Міклашэвіч дастаў недапітую пляшку "пушчанкі". - За два заходы герой беларускага адраджэння з-за акіяна трыста грамаў выжлукціў ды без закусі. Прыпадачны, далібог.

- А што гэта ў цябе?

- Самая адборная, чыстая, з Бацькаўшчыны Кастуся Каліноўскага, выгнаная Хведарам Макрыцай, "пушчанка".

- Хлусіш. Дай смакану глыток.

Другі прыпадачны палову астатку заглыкнуў у момант і адразу асалавеў, не менш як Славамір.

Назаўтра пра наведванне зоркі беларускай паэзіі ў эміграцыі пасправабаваў распавядаць толькі Сяргей, але Антон шчыра папрасіў яго сціхнуць і папярэдзіў, калі пачуе хоць адно слова пра гэта, то будзе біты на радзіме далавараў нагамі і мексіканскаю гітараю па галаве, якая паўстане гішпанскім сярэдневяковым каўнерам у яго на шыі.

Першы тыдзень навучэнцы вывучалі адзін аднаго, побыт незнаёмай краіны і так далей. Нічога асаблівага не адбывалася. Прыгоды распачаліся на другім тыдні.

Першы эпізод быў дробязны, але павучальны для ўсіх. Пасля заняткаў і наведвання "Алегра", Максім Манцэвіч накіраваўся дамоў і праехаў на метро два лішнія прыпынкі. Як выйшаў з падземкі, то пабачыў, што патрапіў у афраамерыканскі квартал. Дастаў мапу Чыкага і распачаў арыентавацца, дзе ён знаходзіцца. Безвынікова. І спытаць няма ў каго. Тут патрапіліся два чарнаскурыя хлопцы пад два метры ростам і Максім, перамагаючы страх, на ломанай ангельскай мове распавядаў ім пра сваю сітуацыю. Якім было яго здзіўленне, калі яны не палянаваліся і прывялі яго да самага дома. Аб тым здарэнні Манцэвіч распавядаў кансультантам, на што Сюзана адказала так: "Ты, белы чалавек, як звярнуўся да афраамерыканцаў,

аказаў ім павагу і вялікі давер, таму яны так паступілі". Рой дадала: "Толькі не хадзіце ў той квартал ноччу".

На наступны дзень пасля заняткаў і "Алегра" частка дэлегацыі накіравалася на бераг Мічыгана для працягу дыспута аб амерыканскай дэмакратыі. У адзінай на ўвесь квартал алкагольнай краме прыкупілі піва і, пад хлюпанне водаў Мічыгана, смакавалі напой.

Маладое каліфарнійскае віно і піва размарылі беларусаў. Яны пачалі паступова раз'язджацца па дамах. Засталіся на беразе Валера Чубрык і Антон з гітараю. Засядзелія да цямна і потым таксама раз'ехаліся. Ранкам Валер паведаміў, што згубіў барсэтку з пашпартам. Грошы былі ў кішэні і таму ён застаўся з фінансамі. Пошукі былі безвыніковымі. Было вырашана пачакаць некалькі дзён: а мала што? Кансультантам таксама не распавядалі. Паўстала спрадвечнае пытанне: што рабіць? Як дамоў вярнуцца? Валер распавядаў аб тым гаспадыні. Тая, відаць, жанчына справы, звязалася з бліжэйшым аддзяленнем паліцыі. Паколькі ў іх практыцы такіх выпадкаў не было, то яны папрасілі звязацца з іншай установай падобнага тыпу. І так гаспадыню адсылалі хіба што ў пяць пастарункаў, а ўрэшце прапанавалі першы варыянт. У гэты раз справа зрушылася з месца. На тым канцы дроту іх уважліва выслухаў службовец і паклікаў жанчыну. Яна цудоўна размаўляла па-польску, і гэта дало магчымасць Валеру давесці да ведама сітуацыю. Тым больш, што на радзіме, відавочна, ёй даводзілася зведаць падобнае. Яна перапісала неабходныя дадзеныяі праз гадзіну часу Чубрык атрымаў праз факс неабходны дакумент. Ніякіх выплат не спатрэбілася. Яму яшчэ патлумачылі, што дакумент неабходна выслаць у беларускі кансулят у Нью-Ёрк. Там будзе выдадзены дублікат пашпарта. Яшчэ жанчына выказала здзіўленне жаданнем беларуса вярнуцца на Радзіму і распавядала, як грамадзяне з Мазамбіка пасля пагранічнага кантрою рвуць свае дакументы і выкідаюць прэч. У кансуляце патлумачылі, што для атрымання дубліката неабходна сплаціць 60 даляраў і выслаць фотку. На фатаздымак был выдаткавана яшчэ дваццаць даляраў. Пасля ўсяго Валер пра тое, што здарылася, распавядаў кансультантам. Тыя з жахам глядзелі на Чубрыка і не ведалі, як быць, калі дублікат не паступіць своечасова. Да канца навучання заставалася два тыдні. Андрэй паўжартам і напаўсур'ёз супакоіў Сюзану і Рой:

- Не хвалюйцеся! Усё будзе добра. Антон на працягу месяца ў Нью-Ёрку будзе выступаць з канцэртамі, а Валер з шапкаю збіраць грошы на білет на самалёт да Беларусі, пакуль яму будуць малявать дублікат.

Для кансультантак усё скончылася як нельга лепш. За два дні да адлёту Чубрык атрымаў даўгачаканы дакумент. Рыжыя вокладкі памерам з пашпарт. На першай старонцы, дзе калісьці мясцілася "Пагоня", быў наклеены сучасны герб. На развароце фотаздымак ды дадзеныя ўладальніка. На тым пашпартныя прыгоды Чубрыка не скончыліся. Калі амерыканскія пагранцы без праблемаў дазволілі яму зайсці ў самалёт, то ў Дзяржаўным нацыянальным аэрапорце надарылася праблема. Прапаршчык, лыпаючы вачыма, доўга круціў у руках гэтыя "корачкі", затым паклікаў маёра. Той паступіў гэтак-сама. Затым пачаў званіць "наверх". Была нядзеля, выходны дзень і ўсе раз'ехаліся па лецішчах. Урэшце маёр адшукаў палкоўніка. Той, відаць, адпачываў па "крутому" і толькі зазначыў:

-Хай па-бу-дзе ў нас-с. Заўтра раз-бя-рэмся-я.

Толькі ў панядзелак пасля паўдня, напісаўшы каля дзясятка тлумачальных, Валер пакінуў будынак аэрапорта, а пашпарт новы атрымаў праз паўгады.

Другі тыдзень стажыроўкі ішоў па даўно выпрацаваным плане, вось толькі беларускія навучэнцы сваімі прыгодамі па-за планам здзіўлялі як саміх сябе, так і куратараў. Перад Сабінаю, якая ў складзе дэлегацыі шпарка крочыла да "Алегра", нечакана прысеў чалавек. Яна не змагла адразу спыніцца і сходу села на шыю мужчыне. Кароткая спаднічка "а ля Васэрман" умомант ператварылася ў набедраную павязку туземца з Новай Гвінеі і агаліла ладныя лынды. Відовішча было класа "супер". Апынуўшыся у гэты момант побач коп з замілаваннем паглядаў на тыя ногі і соладка ўздыхнуў. (Пэўна, пашкадаваў што гэтыя ногі не ляжаць на яго плячах.) Афраамерыканцы заляпалі ў ладкі з радасці, якое шчасце выпала беламу чалавеку. Канфлікт вырашыўся хутка. Яго ўдзельнікі сказалі адзін аднаму "ам соры" і разышліся.

-У нас без мардабою і лаянкі падобнае не абышлося б, - пракаментаваў зарэнне, як заўжды, Міклашэвіч.

Сярод тыдня на заняткі Раман Рагоўскі з'явіўся ў чорных акулярах, а на ілбе ляжаў тоўсты пласт грымёрнага крэму, але ўсё роўна было бачна, што на ім рана. Антон падкраўся з-пад цішка да Рамана і зняў акуляры. Вочы былі чырвоныя ад крыві. Па аўдыторыі пракаціўся жахлівы гул. Завойкалі жанчыны і куратары з перакладчыцамі. Аркадзя ахапіў істэрычны смех. Андрэй адрэгаваў спакойна.

- Прыгожа жыць не забароніш.

Аб тым, што здарылася ўчора, распавядаў сведка тае трагедыі,

драмы і камедыі ў адным варыянце Пятро Задавец. А справа ў тым, што ў двары гаспадароў, дзе жыў Рагоўскі, стаяла ссохлае дрэва. Гаспадары даўно хацелі пазбавіцца ад яго і рапавялі пра тое кватаранту. У таго ўзнікла вялікае жаданне аказаць дабразычлівым людзям сваю дапамогу ды падзарабіць пару дзясяткаў даляраў. Да гэтай справы ён падгаварыў Пятра. Аднак гаспадары ўсё ж вырашылі не турбаваць гасцей, а за чатырыста даляраў нанялі спецыялістаў. Тыя прыехалі, калі спала дзённая спякота, а кватарант з'явіўся дамоў пасля наведвання "Алегра". Праца ішла поўным ходам, аднак жаданне Рамана аказаць дапамогу, як і ўрваць пару дзясяткаў зялёных не пакідала яго. У той момант, калі ён адцягваў голле, адарвалася трэска і патрапіла прама ў лоб, які адразу заюшыў, а зрэнкі наліліся крывёю. Вочы змаглі вылечыць толькі чорнымі акулярамі, а рану грымёрным крэмам. Аўдыторыя лячыла Рамана войканнямі і спачуваннямі.

Каб змяніць тэму гутаркі, Міклашэвіч распавядаў наступнае. У самым цэнтры горада, дзелавым цэнтры, ідучы на заняткі, ён штодня стаў заўважаць чалавека, якому было за пяцьдзесят гадоў. Сярэдняга росту, мажны, сівая галава і гэткая сівая раскладзістая барада. Апратка на ім была не першай свежасці, але чыстая. За сабою ён пастаянна цягнуў тэчку на колах. Заўжды ішоў у накірунку возера. На яго ніхто не звяртаў ніякай увагі.

Андрэй запытаў:

- Хто гэты чалавек?

- Самы звычайны амерыканскі бомж, - адказала Сюзана. - Я яго таксама сустракаю штодня. Толькі глядзіць за сабою, і таму выглядае ахайна. Начуе, напэўна, у адной з бліжэйшых начлежак. У чалавека такі лад жыцця. Ён не парушае грамадскага парадку, і таму ні паліцыя, ні грамадзяне не звяртаюць на яго ўвагі. Такая амерыканская рэчаіснаць.

- Вось бы яго ў нашу рэчаіснасць. Загрымеў бы па артыкуле за дармаедства, - пракаментаваў тое Задавец.

У чацвер на другім тыдні заняткаў медыятары пасля столькіх лекцый, семінараў, трэнінгаў, адным словам, прамывання мазгоў сваімі праграмнымі методыкамі навучання прапанавалі беларусам зрабіць параўнанне амерыканскай і беларускай дэмакратыі. Тыя, хто амерыканскую дэмакратыю ведаў са слоў лектараў, а ў беларускай блытаўся, распачалі хціва хваліць амерыканскую дэмакратыю і ганьбіць беларускую. Факты адсутнічалі, але беспадстаўных выказванняў было мора. Нават Антон Вайтовіч не прамінуў сказаць, што яму, вялікаму творцу, не даюць магчымасці выступаць у канцэртай

зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Міклашэвіч пасля тых слоў хіхікнуў, але не стаў нічога казаць і падрываць імідж сябра, бо яго намаганнямі мінскія сябры ў той зале двойчы Антону ладзілі выступ з аншлагам. Пасля яскравага выступу Антон, выціраючы пот, падышоў да Андрэя і той ў сваю чаргу сказаў наступнае:

-Антон! На той шлягер, напісаны мною, што ўзарваў залю кансерваторыі, я напісаў новую версію.

- Давай! Давай, хуценька! Ведаю, рэч будзе крутая. Ты, "стары", гэта ўмееш.

-Тут ідзе праца, і я табе прашапчу на вуха.

-Згодзен.

-Тады слухай.

*На лузе балдзеюць сяляне,*
*Студэнты раскідваюць гной.*
*Ляжыць, пазяхае дзяўчынка*
*З адвечнай праблемай сваёй.*
*У шафе на верхяй паліцы*
*У бутлі няма ўжо віна.*
*Дзяўчына пілікала скрыпкай,*
*Піла ад відна да цямна.*

Антон імгненне пераварваў прапанаваны яму тэкст, затым зароў як паранены бык на гішпанскай карыдзе і рынуўся прэч з аўдыторыі, агалошваючы яе енкам:

- Паўдурак! Паўдурак!

Сюзана звярнулася да Міклашэвіча з запытаннем:

- Што здарылася між вамі.

На што апошні адказаў спакойны і з пачуццём годнасці:

- Антон папрасіў мяне напісаць тэкст для свайго новага твора. Я яму зачытаў. Ён чалавек творчы і вось такім чынам праяўляе свае эмоцыі. А пасля ўнікае ў сутнасць твора і працуе над ім. Надалей слова ўзяў Мікалай Сцепасюк, кандыдат філасофскіх навук Берасця:

- Ды няма ніякай дэмакратыі ў Штатах.

Аўдыторыя знямела ад пачутага.

- Няма і не было.

- Як няма?

- Што ты кажаш?

Аўдыторыя загула незадаволена, як шэршні, калі іх кубло разбураюць.

- Зараз я вам дакажу. Толькі слухайце. У Чыкага няма дэма-

кратыі.

У Сюзаны і Рой вочы ўмомант сталі болей за нашу найбуйнейшую антонаўку. Светласкурая маўчуння выпусціла асадку з рук на падлогу. На што Міклашэвіч, як заўжды, з'едліва, але на поўным сур'ёзе, ўставіў сваё "эго":

-Як усё ў ЦРУ запушчана, нават стажораў не ўмеюць выбіраць. Не чын беларускаму КДБ, - і ўжо на польскі манер дадаў. - Нехжые нязграбнасць.

З наступнага дня светласкурай маўчунні на занятках не стала.

*ЦРУ*
*Надзвычай сакрэтна*

*Службовая запіска*

*Браць у распрацоўку Андрэя Міклашэвіча не варта. Ён не толькі сваіх гэбістаў і сэксотаў распазнае, але, як высветлілася, і нашых супрацоўнікаў. Працы супольнай з ім не атрымаецца.*

Кандыдат ад філасоўскіх навук працягваў казаць:

- Няма ў Чыкага дэмакратыі. А што казаць пра правінцыю…

Усё, аб чым казаў кандыдат філасоўскіх навук, было падобна на беларускую страву пад назовам вінігрэт, трасянка, а навукоўцы называюць тое эклектыка. Гаварыў ён так таропка, што Таня не паспявала за ім перакладаць. Па ўсяму было бачна, што сярэднявяковая экзыкуцыя ерэтыку давалася лягчэй, чым слухаць кансультантам падобнае. Андрэй глянуў на гадзіннік. Часу да беларускага паходу на "Алегра", як мангола-татараў на Русь, заставалася мала. "Трэба дзейнічаць", - вырашыў ён. Андрэй адарваўся ад падваконня, якое даўно ўпадабаў для сябе, выйшаў на сярэдзіну аўдыторыі, стаў насупраць Сцепасюка. Перад яго тварам паўстала далонь Міклашэвіча.

- Шмуля, як кажуць у Адэсе, сціх. Сціх і сеў. Гаварыць буду я.

Прысутныя знямелі ў чаканні: чым гэта ўсё скончыцца? На іх думку павінна была адбыцца карыда сярод беларусаў на землях індзейцаў плямён чыпэва. "Матадор" і "Бык" не далі прысутным атрымаць тае асалоды. Развязка так званай "карыды" наступіла нечакана. "Шмуля" паправіў акуляры, апусціў галаву і пакорліва заняў сваё месца. У паветры зноў павісла пакутлівае маўчанне: што будзе далей? Андрэй хвілінку памаўчаў, каб сабрацца з думкамі.

- Нам усім трэба разумець, што адзінага шаблона дэмакратыі на ўсе часы не было, няма і не будзе. Як для кожнага народа і кожнай дзяржавы, нават нейкага рэгіёна. Я выказваю сваю думку. Аднак адзіныя пастулаты дэмакратыі: свабода, роўнасць і справядлівасць павінны дзейнічаць заўжды і паўсюдна.

Рой заляпала ў ладкі, яе падтрымалі астатнія.

- Наколькі я ведаю, у праграме нашага навучання ёсць блок знаёмства з працай мясцовых грамадскіх арганізацый, дзяржаўных структур і іншае. Дык вось, калі гэта адбудзецца, то шмат якіх пытанняў і тых наіўных разуменнеў нашых аб дэмакратыі агулам адпадзе і абмеркаванне будзе больш плённым.

-Так! Так! - пагадзілася Сюзана і яе падтрымалі іншыя.

Міклашэвіч адчуў сябе стратэгам, зразумеў, што ініцыятыва ў яго і спазнення ў "Алегра" не будзе. Заставалася толькі ўдала выйсці з гульні і датэрмінова завершыць заняткі.

-Я думаю, што мае калегі падтрымаюць мяне, - ён звярнуўся да складу дэлегацыі. - Трэба шчыра падзякаваць Сюзане і Рой за магчымасць абмяркавання такой важкай тэмы. А яшчэ болей падзякаваць нашай шаноўнай перакладчыцы Тані за працу. Яна сёння увесь дзень працавала адна і, па ўсяму бачна, стамілася, але трымаецца мужна і не падае выгляду, як і належыць сяржанту ізраільскай арміі, - пасля чаго шчыра рассмяяўся, усе за ім, у тым і Таня. - Мяркую, што на тым можна закончыць заняткі і даць магчымасць на паўгадзіны раней ёй быць на пляжы, каб адпачыць. Прапанова была прынята ўсімі, нават і кансультантамі, на "ўра".

Пасля гэтага Андрэй звярнуўся да сябраў дэлегацыі:

- Працяг абмяркавання дэмакратый усіх колераў і адценнеў у пяць гадзін у "Алегра", надалей, хто жадае, на беразе возера Мічыган.

Да беларускай арды ў паходзе на "Алегра" адразу далучыўся Антон. Ён ішоў побач з Андрэем напачатку моўчкі, потым загаварыў:

- Я стаяў у суседняй аўдыторыі і ўсё слухаў. Думаў, што ты пра мае выступы ў філармоніі распавядаеш. Не прадаў мяне.

- У другі раз, калі так будзеш рабіць, не шморгай носам, бо шнобель зламаны твой такі, што за вярсту чуваць.

Была пятніца. Таня абвясціла навучэнцам, што на чатыры дні з'язджае з кангрэсменамі ў камандыроўку. Увесь гэты час будзе перакладаць толькі Ганна. Яна стаяла побач, правая рука была

загіпсаваная па локаць. Тое відаць было прычынай адсутнасці ўчора. Твар яе быў падобны на твар Леніна ў маўзалеі: ні смутку, ні радасці не чыталася на ім.

Падчас перапынку Таня падышла да Андрэя. Апошнія дні ён стаў заўважаць, што яна неяк асабліва глядзіць у яго бок. Палічыў, што гэта стаўленне да яго праўдзівых выказванняў, едкіх жартаў, хцівых кпінаў, як да калегаў, так і гаспадароў. Да гэтага ён прывык і казаў: "Гарбатага магіла выправіць. Якім нарадзіўся такім і памру." Сяржант ізраільскай арміі ведаў, як распачаць размову з кожным, акрамя як з палестынцам. Размова з імі вядзецца іншым чынам.

- Як віно ў "Алегра"?

- Першы бакал кіслы, а потым нармальна.

Абое ўсміхнуліся.

- Ты жадаў бы віскі?

- Ад гарэлкі не адмівіўся б.

- Чым заўтра займаешся?

- Гаспадары клічуць на нейкую імпрэзу, і не ведаю як адбіцца. Барбікю, барбікю, барбікю і пустая гутарка.

- Заўтра Святая субота.

- Шабат.

- Шабат. Працаваць нам нельга. А тут нечаканы ад'езд і шмат што трэба зрабіць. Не змог бы дапамагчы мне.

- Ну, хіба можна адмовіць Тані!

Яны зноў удвух усміхнуліся.

- Калі мне быць? - запытаў Андрэй.

- Чым раней тым лепш. Працы шмат.

- У дзевяць ранку прыемліма?

- Так.

Міклашэвіч на нейкі час паддаўся разважаннем: няўжо Яхвэ ці той Майсей настолькі празарліўцы, што бачаць, чым займаюцца іх продкі ў Чыкага ў гэты дзень зараз? Пэўна, у свой час, яны аб той Амерыцы не чулі і не меркавалі, што яна ёсць.

Андрэй прыйшоў у прызначаны час. На Тані быў надта кароценькі празрысты халацік.

- І так, што я павінен рабіць?

- Хачу прыняць душ. Адрэгуліруй ваду.

Міклашэвіч штосьці ведаў з асаблівасцей гэтага свята і таму жаданню не здзівіўся. Таня выбрала прыемлімую ёй ваду і выказала сваё пажаданне:

- Здымі з мяне халацік.

Тут Андрэй пачаў грузнуць, але, перамагаючы сябе, рашпіліў адзіны гузік і зняў апратку.

- Здымай станік, - ні то загадала яна, ні то папрасіла.

Душэўна змагаючыся з сабою, ён прыняўся за справу і ў думках назваў сябе станочнікам і, каб выйсці з няёмкага ступара сарамлівасці, сказаў сам сабе, што абавязкова папросіць, каб яму выдалі міжнародны дыплом спецыяліста па здыманні жаночых станікаў - станочніка. І адразу ўявіў сабе, што ён будзе на радзіме самы запатрабаваны чалавек у жаночай лазні. Пасля таго, як не стала трусікаў - набедранай павязкі туземца - Таня працягвала:

- Зараз мяне з галавы да ног трэба пакрыць гелем.

- Дык я ж апрануты! - у адчаі ўскрыкнуў Андрэй.

- Сёння Святы дзень і, сам ведаеш, нам працаваць нельга. Так што распранайся сам.

Нанясенне гелю на гэта дзівоснае цела не было з першага разу да канца даведзена.

Пасля вывучэння Шабату ў душы, Андрэй доўга цёр з задавальненнем ручнікам памерамі з прасцірадла яе надзвычай непаўторнае па прыгажосці цела. Калі працэдура абцірання была закончана і ўдзельнікі Шабату апрануліся ў грэцкія тунікі, Таня прапанавала з лядоўні дастаць, што яна згатавала ўчора. Па мерках стол не меў ніякага дачынення да габрэйскіх святкаванняў, бо не было там сціпласці ў стравах і нават традыцыйнага для габрэяў часныка і куркі. Стол упрыгожвалі "Віскі" і гарэлка, якую на ўсялякі выпадак прыхапіў Міклашэвіч. Васарман кульнула першую чарку гарэлкі "Сталічная" берасцейскага разліву, як сябра Андрэя Аркадзь, закінуўшы назад галаву. Затым абцерла вусны рукавом і пачала хрумстаць салёны гурок, няведама дзе яна яго набыла. Пасля чаго спакойна сказала:

- Не хвалюйся, твой "Тормаз ад "Белаза" ніколі не даведаецца, як ты вывучаў Шабат.

Прамоўленае здзівіла госця, але ён не падаў віду хвалявання. Іхнія і нашыя канторы валодаюць дакладнымі звесткамі пра ўсё і ўсіх.

- Тое, што адбылося зараз, у дзень Шабату, гэта Піют "Леха додзі".

- Яго можна спяваць блізкім людзям колькі заўгодна разоў сёння і ў буднія дні таксама.

Нечакана для сябе ён запытаў:

- Няўжо ты гэтую працу не магла прапанаваць іншаму?

- У гэты дзень нам самым належыць выбіраць і я выбрала цябе.

Піют і надалей працягваўся яшчэ колькі разоў у тую суботу ў перамежку з застоллем.

У восем гадзін вечара Таня паспешна з'ехала ў аэрапорт, а Андрэй вярнуўся дамоў. Джона і дзяцей не было, толькі Хелена і мардасты кот. Яна спрабавала тлумачыць прычыну іх ад'езду, але гэта ёй не ўдавалася. Госць шчыра ўсміхнуўся і падняўся да сябе на другі паверх. Неўзабаве ў дзверы яго пакоя пастукалі, ён адкалаў занатоўнік ўбок і адчыніў. На парозе была Хелена. У яе руках быў вялікі фужэр, поўны віскі, і два тостэры.

Андрэй Міклашэвіч, які прайшоў курс вывучэння Шабату і адначасова займеў дыплом станочніка ды ўсё гэта удосталь абмыў беларускай гарэлкай і шатландскім віскі, апасля з ласкі Хелена пад два тостары кульнуў яшчэ дзвесце грамаў гэтага канадскага напою, беспрабудна спаў. Дзесьці ў дзве гадзіны ночы яго змог дабудзіцца Джон і перадаў тэлефон. На тым баку лініі невядомы пакуль яму жаночы голас нешта пытаў.

Тут Андрэй усвядоміў, што тэлефануе перакладчыца.

- Што здарылася, Ганна!

- Сцяпан не вярнуўся начаваць.

- Скажыце гаспадарам, што з ім усё добра. Нарута ў гасцях. Ён паехаў праведваць свайго брата, які працуе тут, і застаўся там. Заўтра, у нядзелю, магчыма з'явіцца, а магчыма не. А за тое, што не паведаміў аб тым гаспадарам, варта ў панядзелак раніцай не даваць яму піць ваду. Андрэй падзякаваў Джону і далей заваліўся спаць. Засынаючы, ён падумаў, каб не Шабат з Таняю, тое самае было б і з ім. Напярэдадні Сцяпан запрасіў яго паехаць праведаць брата, і Міклашэвіч, каб у чарговы раз не есці барбекю, ад якога ў яго пачаў псавацца страўнік, без ваганняў пагадзіўся. Толькі сцэнар выходных памяняла Васэрман. На тым ёй і дзякуй.

Трэці тыдзень навучання, як і было запланавана, быў прысвечаны знаёмству з асаблівасцямі працы грамадскіх арганізацый і дзяржаўных устаноў. Аднак панядзелак амаль не распачаўся з бойкі сярод беларусаў. Сцяпан Нарута, які два дні не начаваў у гаспадароў, з раз'юшаным выглядам падскочыў да Андрэя.

- Хто ты такі, каб забараняць мне піць ваду. Я табе зараз морду расквашу. Мне забараняць піць ваду… А я яшчэ клікаў яго з сабою.

Міклашэвіч лыпаў бычынымі вачыма, бо даўно забыўся пра п'янае плявузганне тае ночы і не разумеў, у чым яго правіннасць. Кан-флікт непрыкметна для прысутных хутка ўладзіў Аркадзь.

- Не бузі. Тут табе не Вашабіткі, а Чыкага. Вінаваты сам. Дык загладжвай віну.

- Усё ў мяне з сабою. Не хвалюйцеся.

Пасля чаго Аркадзь наліў вялікую пластмасавую пасудзіну вады з бутля і падаў Наруце. Вадкасць умомант астудзіла яго ваяўнічы пыл. Сюзанна і Рой коратка распавядалі сутнасць дзеяння і выказалі надзею, што з боку навучэнцаў усё будзе "О'кэй!" Далей паўнаўласнай кіраўнічкай "дзікай дывізіі" беларускіх навучэнцаў заходняй дэмакратыі стала перакладчыца.

Гіпсаваная Ганна распачала рэй і ў гаворцы нечакана скарыстала слова "гарна". Гэтым словам часта карыстаўся цесць Андрэя, ён ужываў яго, дзе трэба і не трэба. Да Міклашэвіча прыйшла думка, што гэтая Ганна паходзіць з украінскіх габрэяў. Адкуль? Што яна не з Адэсы было відавочна, бо там свой слэнг. Тады ён наабум задаў наступнае пытанне:

- Будзь ласка! Якое місцо більш: Бэрдычыв чы Жмэрынка?

Патрапіў як нельга лепш. Ганну не здзівіў запыт стажора на ўкраінскай мове, а закранула сама пастаноўка пытання.

- Спраўжне шо мій Бердычыв, - адказала яна чыста на ўкраінскай мове. - Жмэрынка, во!

І ў пацверджанне сваіх слоў яна пальцы на паламанай руцэ звяла ў адзінае - шчопці.

- Усё так! Нават класік габрэйскай літаратуры Шалом-Алейхам увёў у кнізе "Горад маленькіх людзей" правобраз Бэрдычыва пад назовам Касрылаўка, - паважна зазначыў Андрэй.

- Назоў красамоўны, - хіхкнуў Антон.

- Мінулая габрэйская Касрылаўка - цяперашні Бэрдычыв - і зараз стаіць на рэчцы Гнілапяць, што ўпадае ў Дніпро, - удакладніў складальнік сучасных беларускіх гімнаў для цяперашняга нацыянальнага Арфея.

Ганна, магчыма, і чула імя гэтага габрэйскага літаратурнага класіка, але аб чым ён пісаў - не ведала, таму змяніла тэму гутаркі. Міклашэвічу падалося, што ён пакрыўдзіў перакладчыцу, абазваўшы яе любы Бердычыв нейкай Касрылаўкай, але тут жа не адчуў у тым сваёй віны, бо такую назву гэтаму гораду даў класік іхняй літаратуры ды, пэўна, скарыстаўшы пабытовую гутарку тагачасных габрэяў. "Ат, нічога, невялікая пані, карона не зваліцца! Перажуе, як карова

жуйку", - адзначыў у добрых беларускіх традыцыях

Андрэй для сябе адчуў перамену ў настроі жанчыны. Толькі ён у крыўдзе памыліўся. Надалей перакладчыца, калі сышлі куратары, пачала ў хвост і грыву чыхвосціць тамтэйшую сацыяльную сістэму, параўноўваючы яе з былой савецкай, якую яна хваліла, як праведны вернік Святое Пісанне. Крыўда яе была белаю, як гіпс на зламанай руцэ. Траўма ў жанчыны была бытавая, але навучэнцы ніяк з яе блытаных тлумачэнняў не даведаліся, што з ёю папраўдзе здарылася: ці зламала яна руку, калі прыбірала кватэру; высвятляючы з мужам спрэчныя пытанні сумеснага пражывання ці, можа, вывучаючы Талмуд?

Ганну данімала тое, што па траўме ёй не належыць ніякіх выплат, давялося з уласнай казны заплаціць за гіпс і працу па яго накладцы. "Такога крахаборства ў Саюзе ніколі не сустракалася!" - не сунімалася кабета. Толькі адказваючы на пытанне аднаго з навучэнцаў, агаварылася, што тут, у Штатах, ні ў якія сацыяльныя фонды ніколі выплат не рабіла.

- Каму плаціць? Каго карміць? Прыехаў са Жмэрынкі, бюро сацыяльных паслугаў для нашых стварыў і хоча бабло на халяву касіць. Не дачакаешся ці цэнта ад мяне, Хаім!

- Яшчэ хацела, каб ёй усё рабілі за так. Тут няма савецкай халявы, - седзячы побач з Андрэем, зазначыў Антон.

- "Нашыя" ўсюды "нашыя". Толькі бываюць выпадкі, што тая "халява" не спрацоўвае, - адказаў Міклашэвіч.

- Тады ніяк не магу зразумець, чаму нашы перадкладчыцы не абралі месцам жыхарства Святую Зямлю? - гнуў сваё маэстра.

- Адказ на паверхні. Ён вынікае з адэскага жарту. "Мойша! Чаму ві не едзеце жыць на зямлю продкаў?". "Ой, Ізя, такі! Ві знаеце, я чалавек чэсны. А там усе сабраліся чэсныя. І як мне ві скажаце мець там бізнэс?". Альбо вось такі. "Ціля! Сёння ў лаўцы Саламона нічога не купляй, нічога!". "А што такое, Абраша?". "Ён пазычыў у мяне шалі".

- Сваіх ашукаць праблемна. Глядзі, каб цябе не ашукалі … А Таня?

- Нешта я пачынаю сумнявацца ў яе жыдоўскасці. Час пакажа.

Першым адпраўным пунктам навучання беларусаў амерыканскай дэмакратыі стаў адзін з тамтэйшых судоў. Відаць, у Чыкага іх бязмерная колькасць, бо да таго суда дабіраліся пешшу пяць хвілін. Усю дарогу загіпсаваная перакладчыца гучна казала пра несправядлівасць тутэйшая сацыяльнай сістэмы. Андрэй і Антон, што ішлі

побач і наводдаль ад Ганны, у паўголаса каментавалі яе лямант. Міклашэвіч, успомніўшы забаўкі дзяцінства, зазначыў так:

- Вішчыць, як сабака, якому яго начынне дзеля пацехі ў лешчаткі ўзялі, - ды патлумачыў сабачыя памкненні ў гэты час наступным чынам: - Так мкнецца машну сваю адкусіць, так стараецца, быццам болю тым дапаможа…

Вайтовіч у гэтым плане быў больш пунктуальны:

- Гэта нацыянальнае. Лямантуе, як Сара абкрадзеная.

Увесь час да суда перакладчыцца не сціхала казаць пра свой боль: болей пра душэўны, чым фізічны.

Будынак суда быў велічны, як уся тамтэйшая судовая сістэма: уваход у той гмах трымаўся на шасці неабдымных аднаму чалавеку калонах. Прасторныя калідоры былі пустыя. Паблукаўшы па іх, дэлегацыя спынілася ля адчыненых дзвярэй у судовую залу. Магчыма, суровая кара злосным парушальнікам мясцовага заканадаўства сёння выносілася ў ішным месцы, бо тут было пуста. На ўваходзе стаяў белабрысы двухмятровы амбал апрануты ў іх паліцэйскую форму. На дзязе боўтаўся нават пісталет, а можа нешта іншае было ў кабуры. На гэтую акалічнасць Андрэй звярнуў увагу.

- Навошта "пугач" яму. Гэты камод не толькі любога злачынцу заламае, але і буйвала адной левай заваліць, - шапнуў Аркадзю Міклашэвіч.

Судовы ахоўнік на чыста расейскай мове сказаў, што суддзя даў заданне яму распавядаць пра судовую сістэму штата і яе асablівасці ў Чыкага. Пра сябе зазначыў, што ён эмігрант-літовец, з'ехаў у вольны свет у часы існавання Саюза.

Тут у Антона вырваўся звыклы зварот:

- Лаба дзенас!

- Што? - у сваю чаргу перапытаў Бранаўскас.

- Не турбуй, чалавека, - умяшаўся ў гутарку Андрэй. - Ён тут - ні супранту, - і звярнуўся да судовага ахоўніка: - Ты з Коўна?

- Не! Не! - паспешна загаманіў амбал.

- Шальнікаў?

- Друзгенікаў!

Перакладчыца папрасіла не замінаць працы, і ўсе замоўклі. Надалей друзгеніцкі Бронік плёў нейкую блявузіцу пра амерыканскі суд, але не болей пяці хвілін, а напрыканцы зазначыў, што ў год ён атрымлівае заробак у 32 тысячы даляраў. Ад такой шчырасці ён рассмяяўся і адкрыў свой рот, у якім не хапала трох пярэдніх зубоў.

На тым наведванне суда закончылася, і Ганна, зазначыўшы,

што на сёння частка грамадскага навучання скончылася, некуды сышла. Сабіна цяжка ўздыхнула ды заўважыла:

- За такі заробак я б залатыя зубы на ўвесь рот паставіла.

- Толькі не пашчэнкі акулы, - як заўжды на поўным сур'ёзе ляпнуў сваё "эго" Андрэй.

Антон хіхікнуў:

- Уяўляю пацалунак!

Адказ Сабіны быў імгненны:

- За гэта дома я вас і сваімі зубамі загрызу. Слова гонару. Рыхтуйцеся!

- Антоша! Нам застаецца толькі адзіны паратунак - эміграцыя ў беспрасветныя джунглі. Тайга сібірская нас не паратуе. Шмат штогод выгарае.

Стажароўшчыкам у гэты дзень прадстаўлена ўласна асвойваць побыт шараговых амерыкосаў, і яны таму былі неймаверна рады. Надалей дэлегацыя працавала па даўно ўласна складзеным плане: ад абеду да пяці бадзянне па беразе Мічыгана, а пасля пяці - "Алегра".

Пад гоман хваляў возера, у водах якога боўталася дохлая вялізная рыбіна, Антон няпешна перабіраў струны гітары. Дэлегацыя, разбіўшаяся на групоўкі, гаманіла аб сваім. А што было рабіць!? Нехта грошы эканоміў, нешта іх бяздумна "спусціў", але выпіць хацелася ўсім. Адна надзея - "Алегра".

Нечакана Андрэй папрасіў на хвіліну гітару. Узяўшы акорд ён акінуў позіркам маэстра і хмыкнуў.

- Даўненька яна не мела наладкі.

- Ды ўсё няма часу. Сам бачыш, як я старанліва вывучаю тутэйшую дэмакратыю.

Пасля кароткага дыялогу на манер Вайтовіча Міклашэвіч заспяваў:

Я сяжу смяротна п'яны ў "Алерга",
Гаманю, што мала віна,
А стары, разумны Вілі:
- Напіся, хлопча, г…а…

Антон ускочыў і выхапіў у сябра гітару.

- Болей твае паганыя рукі не кранущца яе.

- Я і сам не вазьму гэтую разбоўтаную балалайку.

Тыдзень практычнага навучання амерыканскай дэмакратыі выдаўся цікавы. Што ні дзень - наведванне нейкай грамадскай

установы для беларусаў з іх менталітэтам быў адкрыццём непаўторных асаблівасцей быту Новага свету, як для Калумба - нязведанай зямлі.

На наступны дзень адбыўся заезд у адну з іх навучальных установ, невядома якога профілю, але кшталту не Кембрыдж, дзе, па ўсёй бачнасці, навучаліся дзеці афра- і азіяамерыканцаў розных узростаў. Яна сустрэла гасцей прасторнымі класамі, дабротнымі партамі ды такім жа іншым якасным абсталяваннем. Былі школьныя канікулы, і таму на так званых занятках прысутнічала малая колькасць навучэнцаў - тыя, хто не змог паспяхова прайсці навучане ў бягучым годзе. Воддаль адна ад адной сядзелі некалькі чарнаскурых дзяўчатак дзесяцігадовага ўзросту, якія ўторкнуліся ў нейкія падручнікі.

На першай лаўцы сядзеў чорнаскуры "недавучань" ростам пад метр восемдзесят, шыракаплечы, і натуральна спаў: заплюшчаныя вочы і поўная рэлаксацыя. Каб ён быў беларусам, то можна было б падумаць, што ноччу курэй краў ці коней пасвіў. Аднак яго правая рука, не перастаючы, чухала міжножжа. Карціна была арыгінальная. Настаўніца падышла да яго і пагладзіла кучаравыя валасы. Рэакцыі ніякай. Ужо потым выкладчыца ўсё проста патлумачыла: "Мы вучым, але не прымушаем вучыцца".

На тым і закончылася гадзіннае азнаямленне з сістэмай тамашняга школьнага навучання. Найбольш яна спадабалася Вайтовічу. Не столькі гультаяватасць вучняў, бо ў музычнай школе ён быў такім жа, а ўменне навучэнца спаць на ўроку і чухаць генеталіі. Андрэй маўчаў, бо ўяўляў здольнасці Арнольда, якога Джон вазіў на дадатквыя заняткі і меркаваў, што яны з Хеленай зараз шкадуюць аб тым, што не таго ўсынавілі.

У наступны дзень было наведванне школы навучання бізнесу афраамерыканцаў. Яна была размешчана ў іх квартале. Іфраструктура крыху лепшая за беларускія вёскі, але ў вышынных дамах у некаторых кватэрах былі выбітыя вокны, паламаныя дзверы, абшарпаныя звонку сцены. Якімі выглядалі кватэры ў сярэдзіне - заставалася толькі здагадвацца. Як патлумачыла рукагіпсаваная перакладчыца Ганна, звычайна такія занядбаныя кварталы выкупляюць уплывовыя жыды (яна так і вымавіла - жыды, але з асаблівым гонарам). Квартал будуецца з шыкам, затым тыя дамы набываюць іншыя амерыканцы, пасля чаго ў іх селяцца мексіканцы, а ўрэшце рэшт - афраамерыканцы. Праз дзясятак гадоў усё пачынаецца спачатку: жыды, англасаксы і т.д і т.п. Гіпсаваная дакладана не называла, дзе і калі гэта адбывалася. А вось надалей шмат што

зацікавіла беларусаў. Іх уразіла памяшканне цэнтра. Плошча - як дзвесце квадратаў: сталы з сучаснымі кампутарамі, наглядныя стэнды, асобна сталоўка з напоямі, печывам і іншымі смакосцямі. Антон шапнуў на вуха Андрэю: "Давай вадзічкай сушняк удушым!" На што апошні цяжка ўздыхнуў і адказаў: "Тут, як казаў мой сябра адэсіт, усё на грані грандыёзнага шухеру. Я пацярплю." Не стаў цярпець Пятро, ён падышоў спакойна да апарата і наліў сабе вады ды з асалодаю беларуса, што п'е расол на апахмелку, заглынуў яе. І тут жа паўтарыў. Яго прыкладу паследавала дзясятак сяброў дэлегацыі. Сабіна сціпла згатавала сабе каву і не прамінула ўзяць печыва. Кіраўнічка школы да гэтага паставілася добразычліва і прапанавала гасцям ужываць усё, што яны пажадаюць. Затым яна распавядала пра дзейнасць сваёй арганізацыі.

Установа паўстала болей як дзесяць гадоў назад. Навучанне ў арганізацыі дзеля вядзення бізнесу за гэты час прайшлі некалькі тысяч чалавек. Жанчына яшчэ распавядала, што арганізацыя дабрачынная і існуе за сродкі фундатараў, дапамогай дзяржавы не карыстаецца. Аркадзь ўздыхнуў і зазначыў:

- Вось нам бы такіх фундатараў!

Міклашэвіч заставаўся ў сваім рэпертуары:

- Уяўляю! У колькі разоў узрасла б на Беларусі колькасць грантасмокаў!

Напрыканцы кіраўнічка цэнтра з хвальбою паведаміла, што за час працы арганізацыі дзесяць яе выпускнікоў пачалі стала займаюцца бізнэсам.

- Гэта яны гойсаюць па Чыкага на кабрыялетах? - пацікавіўся Антон.

- Не ўсе. Ёсць такія, што ужо маюць свае лімузіны, - пачуў ён у адказ.

Чацвер. Перадапошні дзень азнаямлення з грамадскім жыццём і дзяржаўнымі ўстановамі Чыкага найбольш запомніўся беларускім навучэнцам з'яўленнем "суперперакладчыцы" Тані Васэрман. Яна падзякавала гіпсаванай Ганне за працу і са згоды кіраўнічак праекту прадставіла ёй выходны дзень.

Выгляд у Тані быў стомлены, і гэта адразу заўважылі беларусы. Свой стан яна патлумачыла шматгадзінным пералётам са Старога свету ў Новы. Антон на тое выказванне рацыянальна заўважыў, што за гэты час ён паспеў бы "нажрацца" і выспацца. Андрэй таксама не прамінуў выказаць сваё меркаванне:

- Справа не ў пералёце. У апошні дзень была вялікая культурная праграма. Гаспадары для гасцей арганізавалі паказ лову кракадзіла на жыўца ў адной з затокаў Ніла. Усё было так непаўторна і весела; радаваліся ўсе, як кракадзіл заглыкнуў жыўца, толькі кучаравая галава не ўмясцілася ў кадлубе пражоры, і пры тым ён стаў ахвяраю сваёй сквапнасці. Потым афрыканцы асвяжылі рэптылію, ды сенатары з кангрэсменамі за мілую душу ўпляталі згатаванае па афрыканскіх рэцэптах мяса пад іх рытуальныя танцы. Шкуру кракадзіла нехта прысабечыў з кангрэсменаў, бо сенатары абураліся.

Таня з болем і крыўдай глянула на Міклашэвіча. Той надалей гаварыў сваё:

- Я не раўную, але злосць бярэ.

У сваю чаргу яна зазначыла:

- Шабат адмяняецца.

- Ёсць жыццё і на іншых планетах.

- Глядзі! З маёй ласкі яно можа знікнуць, як знікла на Зямлі Саннікава.

На тым іх спрэчкі спыніліся.

Сёння беларусам прадстаўлялася магчымасць наведаць штаб-кватэру аддзялення ЦРУ ў Чыкага, якое знаходзілася каля іх школы навучання. Ішлі пешшу, сябра дэлегацыі з Мазыра, Ларыса, запытала ў Аркадзя:

- А ў іх там падвалы ёсць для катавання?

- Ёсць! - замест Піліпчука адказаў Андрэй. - Неўзабаве там апынішся.

- Я ні ў чым не вінаватая. Нічога не ведаю. Што я магу сказаць?! - залемантавала кабета.

- Тады цябе перавядуць у кубінскае "Гуантанама". Там усё распавядзеш, чаго нават не ведаеш і чаго не было. Працуюць у гэтай установе спецыялісты экстракласа, абы каго туды не бяруць.

- Станочнік, - умяшалася ў гутарку Таня. - Каго сёння трэба закінуць у тутэйшыя падвалы - дык гэта цябе! Я паспрыяю.

- Цудоўна! Згодзен аддацца ў лапы самага справядлівага суда ў свеце, адразу пра ўсіх усё распавяду і ўсіх здам, - пагадзіўся Міклашэвіч. - Толькі напачатку арганізуй экскурсію ў іх музей. Так хочацца напаследак пабачыць пазногці Аль-Капонэ.

Падняліся на нейкі паверх хмарачоса. У прасторнай зале, сцяна якой была размалявана цээрушнай атрыбутыкай, іх сустрэў двухметровы прэс-сакратар аддзялення. Ён прадставіўся як Джо Джонсан, у падабенстве да савецкага Іван Іваноў, ды распавядаў на

чыста расейскай мове пра працу іх установы. Запалоханыя прыколамі Андрэя пра тамтэйшыя падвалы, беларусы маўчалі. Потым дэлегацыі былі паказаны пустыя кабінеты з суперабсталяваннем. Праз гадзіну сустрэча закончылася. Як выйшлі на вуліцу, Андрэй сказаў:

-Звычайная дэмастрацыйная зала для такіх лохаў, як мы.

Неўзабаве Міклашэвіч адышоў ад дэлегацыі, патлумачыўшы тое неабходнасцю наведаць "Чыкага трыбюн". Аб наведванні рэдакцыі нібыта дамовіўся гаспадар. Андрэй схлусіў. Сустрэча ў рэдакцыі была запланавана на наступны тыдзень, а сёння сям'я Стоўнаў настойліва запрашала яго павячэраць у рэстарацыі. Ён пагадзіўся, бо ад кіслага віна "Алегро" у яго была аскоміна. Андрэй уяўляў сабе шыкоўную залу рэстарацыі, прытушае святло, кальмары пад пікантным соўсам і канадскае віскі ды нашчадак Луі Амстранга на сваё "дудцы" выводзіць непаўторныя перапевы. Надзеі яго адразу памарнелі, калі Джон запрасіў яго ў сваё аўто, а сам сеў за стырно, на задніх сядзеннях месціліся жонка і дзеці. Паблукаўшы паўгадзіны па чыкагскіх вуліцах, яны спыніліся ля будынка з гучнай назвай рэстарацыя. Ля ўваходу стаяў дзясятак чалавек. Джон з сур'ёзным выглядам падыйшоў да апарата, што вісеў ля ўвахода, набраў нейкую інфармацыю, пасля чаго апарат выплюнуў яму чэк. З гэтай паперкай ён вярнуўся да сям'і і назваў нумар іх калейкі. Чакаць давялося болей за паўгадзіны. Увайшлі. Мэтр (Андрэй не ведаў, які тыя рэстаранныя асобы маюць назоў у Чыкага) услужліва паказаў ім столік на пяць асобаў. Тут жа падышоў афіцыянт і падаў меню. Андрэй на мігах паказаў Джону, што заказ на яго густ. Стоўн доўга гартаў меню і называў афіцыянту стравы. Заказ прыняты. Міклашэвіч аглядзеў залу. Па памерах яна нагадвала фабрыку-кухню, што падчас яго вучобы ў сталіцы месцілася ля Дома Кіно (у мінулы і цяперашні час касцёл Святых Сымона і Алены) непадалёку ад Дома Ураду. Толькі зараз яму прыгадалася, што яны, нешматлікія студэнты-жэўжыкі, перакусіць хадзілі ў сталоўку тэхнічнага персаналу Дома Ураду, што знаходзілася ў правым крыле. Якасць страў, кошт і абслугоўванне ніяк не адпавядала фабрыцы-кухні.

Прынеслі замову. Перад Джонам паставілі вялізную талерку: салата, бульба-фры, яшчэ нейкая трасянка з тутэйшай зяляніны і паверх усяго ляжала здаравенная рабрына. Андрэй ніяк не мог вызначыць, з якога яна звера: на кацячую не падобная, на трусячую таксама завялікая, на прасячую - замалая. Гэткую порцыю атрымаў Андрэй. Тое ж мела і Хелена, але ёй з ласкі Джона падалі нешта на

дэсерт. Дзецям паднеслі на вячэру салату і бульбу-фры. Для таго, каб спатоліць смагу, кожны, згодна заказаў, атрымаў па пляшчы колы. Дзеці ўмялі бульбу, а з колаю і нейкім печывам шмыгнулі на вуліцу.

Джон з'еў палову рабрыны і салату, Хелена - дзве скабы і фры. Міклашэвіч абглыдаў адну скабіну але не ўцяміўшы, якой істоце яна належыць, не стаў болей есці. Па выразах твараў наведвальнікаў было зразумела, што рэстаранная вячэра скончана. Падышоў афіцыянт і запытаў, ці жадаюць наведвальні што-небудзь яшчэ. З Андрэя так і пёрла сказаць: "Падай пляшу гарэлкі, каб я змог гэтую гадасць праглынуць". Джон папрасіў разлік. Неўзабавеён атрымаў яго, і Андрэй, паколькі сядзеў побач, заўважыў, што за ўсіх і ўсё трэба было заплаціць 93 даляры і 62 цэнты - смешныя для вячэры на пяць чалавек у рэстарацыі выдаткі. Разлік быў карткай, што ў той час для беларусаў было навіной. Афіцыянт сабраў недаедкі і сышоў. Міклашэвічу было няўцям: чаму сядзяць і не сыходзяць гаспадары. Неўзабаве з'явіўся афіцыянт і перадаў шэсць пакетаў. Крыху пазней Джон патлумачыў, што гэта прадукты, якія яны заказалі, але не да канца не скарысталіся імі. Госць быў здзіўлены як ніколі: ў Новым Свеце недаедкі ў рэстарацыі не прысабечваюць, не тое што на Бацькаўшчыне, а вяртаюць.

Вярнуліся дамоў. Джон, як звычайнана, з'ехаў з дзеткамі на спартовыя рысталішча. Андрэй падняўся ў свой пакой і распачаў занатоўваць пабачанае сёння. Незабаве да яго завітала Хелена і запрасіла сыйсці ўніз да сталоўкі. На ёй было экстравагантнае кіміно. Яно ледзьве прыкрывала Зорку Венеру што ніжэй паясніцы, з разрэзу, што спераду пры кожным руху выскоквалі верхнія мячыкі - Узвышшы Венеры. На кожным прыступку, як яны спускаліся ўніз, а Хелена ішла паперадзе, халацік агаляў яе ягадзіцы. У такіх пікантных сутуацыях Міклашэвіч сведчыў, што ў мужчыны ў гэты час пачынаецца дробнае варушэнне ў нагавіцах. Варушэнне даўно перайшло тую рысу і стала буйным. Яно затуманіла яго розум. У той момант ён не аддаваў сабе справаздачы, чым можа закончыцца ўсё гэта і рашуча пачаў дзейнічаць. Як толькі Хелена сагнулася перад сталом, на якім месцілася пляшка віскі і рэбры невядомай дзічыны, ды агаліла ягадзіцы, Андрэй закінуў кіміно на шыю кабеты і з тылу прыступіў да працы. Жанчына стагнала, войкала, млосна ўздыхала, як магла штурхала назад азадак, акурат як і беларускі. "Прафесарша" вышэйшай катэгорыі ў гэтай галіне навукі і практыкі. Калі справа была закончана, яна бязвольна села на крэсла, заплюшчыла вочы і нейкі

час маўчала ды матляхала галавою. Потым твар яе расплываўся шчыраю ўсмешкаю. Яна наліла ў шклянку паўпляшкі віскі і падсунула сэксуальнаму працаўніку. Сама стала піць колу. Міклашэвіч умомант апустошыў шклянку, запіў вадою ды пачаў хрумстаць тостэр. Да рабрыны не дакрануўся. Не праміну́ў ён выпіць яшчэ віскі, затым пагладзіў кабету па калені і пацалаваў. Яна ў чаканні працягу задавальнення млосна войкнула і заплюшчыла вочы. Пасля чаго Андрэй пайшоў адпачываць. Было чуваць, як Хелена прымала душ. Джона яна сустрэла ў двары, апранутая ў спартовы касцюм.

Пасля ўчарашняй вячэры ў рэстарацыі Андрэя і сямейства Стоўн рознакаляровымі бацькамі і дзеткамі, ён пажадаў пачаставаць беларускай стравай гаспадароў: аладкі, блінцы, салат аліўе, вінігрэт, ці хаця б гуркі са смятанаю, або звычайная салата. На заняткі наведаўся на гадзіну і сышоў. Пасля чаго абыйшоў колькі гіпермаркетаў, затым - у безнадзейнасці - гандлёвыя кропкі мексіканскіх кварталаў; кітайскія, в'етнамскія крамы. Поўная безнадзёга. Жаданых прадуктаў там не было. Панура апусціўшы галаву, ён падаўся дамоў. У невялікім завулку з прыватных асабнякоў, заселеных украінцамі, бо іх можна было беспамылкова вылічыць па выключна прыбраных дворыках; дагледжаных агародах, з абавязковым сланечнікам і жоўтасінім прапарам ля дома ці ў вакне. Ля аднаго з дамоў, звесіўшы рукі праз тын, стаяў мужчына сталага веку ў нацыянальнай кашулі ды з шыкоўнымі вусамі. Міклашэвіч праходзячы міма, успомніў спрадвечны ўкраінскі звычай вітання і прамовіў:

- Здоровэнькі булы!

Асабліва ўкраінскай мовы ён не ведаў і казаў, як мог. Мужчына адказаў яму адразу:

- Здоровэнькі, - і адразу запытаў: - Украінец?

- Ды нэ. Беларус. Дружына ўкраінка.

- Відкіля?

- Фасців, що з-під Кыева.

- О! То ж Казяцін, Біла Цэрква, Васільків, Жмэрынка…

- Так. Цікі мая тэшча з Палавэцка.

- Вэлыка Палавэцка?

- Ні. Мала Палавэцка.

- Мала Палавэцка! Буў там?

- Так, буў.

- А ставок там э?

- Купався ў ім.

Радасці мужчыны не было мяжы.

- А тэшча, хто будэ?

- Донька Тані Зарэмба.

- Той шо мазанка над ярам була. І шаўковіца ля хаты.

- Шаўковіца э, бабы Тані нэ мае.

Пасля чаго дзед працягнуў руку і назваў сябе:

- Стэпан.

- Андрэй, - у сваю чаргу зрабіў тое ж Міклашэвіч.

- Тэсць маскаль? - нечакана задаў пытанне гаспадар.

- Ні, з Хмельніччыны. Шэпетоўка. Дэсь з сіла ля Палоннае.

Тут Сцэпан ва ўвесь голас заенчаў:

- Оксано! Оксано! Гэць сюды!

Да іх падышла мажная кабета, найперш талеўхнула ў вуха чоловіку, не звяртаючы ўвагі на незнаёмца і запытала:

- Што равеш, як скажэнны?

- Оксано! Дывіся, цэ людына з Беларусі, мае дружыну з Фасціва, а яе маты з Мало Плавэцкаго. Яна донька Тані Зарэмбо. Таня памэрла, а шаўковіца над ярам засталася, э. І ставок э. Він купаўся ў ім.

- Добрэ!

- Да ты мэнэ слухай. Яго тэсць з Хмельніччыны, з села, шо ля Палоннае, там радылася ты. Жанчына зноў адвесіла мужчыне добрага ляшча, ад якога ён чуць не загараў носам:

- Якога біса ты людыну мучыш, а не клічаш за стіл.

Цяпер толькі Андрэй зразумеў памкненні сваёй украінскай жонкі, калі яна на поўным сур'ёзе казала:

- Будзеш бачыць, што калісьці кончыцца маё цярпенне з тваімі выбрыкамі, я цябе наўпрост заламаю і прыкандэшу.

Казала яна тое на чыста беларускай мове, якую адразу засвоіла па прыездзе "на чужыну", толькі з гэтай чужыны яна не збіралася з'язджаць ні ў якім разе. Пры спрэчных сямейных пытаннях муж шчыра прапанаваў ехаць ёй на бацькаўшчыну, дзе заставалася за ёй кватэра. У гэтых выпадках жанчына ўраз мяняла тэму гутаркі:

- А мне і тут добра. Я законная грамадзянка Беларусі, і не спадзявайся, што з'еду. Не дачакешся такога шчасця.

Селі ў альтанцы. Оксано ўмомант паставіла на стол па місе ўкраінскага баршчу, гарного спраўжнего ўкраінскага баршчу, які гатавала тэшча Андрэя, але не ўмее дружына. Баршчы той такі, што ў ім магла спакойна стаяць лыжка. На стале ў момант паўсталі варэныкі ды шмат іншай снедзі і гляк гарілкі.

Выпілі. Закусілі. Як кажуць расіякі, бо гэты выраз пераняли беларусы і пераклалі на свой лад ды паўстала двухмоўная трасянка: пасля першай і другой перапынак небальшой. Гаспадары некаторы час пыталі пра мясціны цяперашняга часу сваіх народзінаў. Затым яны пачалі самі распавядаць пра далёкія часы, калі былі дзецьмі і вайна пагнала іх у гэты край. Успаміны для старога чалавек пра дзяцінства - святое. Раз пораз Сцяпан паказваў на бутлю самаробнага "Спатыкача" і казаў:

- Насыпай!

- Без тэбе знаю. Даўно пара. Цікі дай людыну паслухаць, - хоць несупынна гаварыла яна сама.

Стэпану "захарашэла" ды яго пацягнула на спевы і ён хрыпатым голасам завёў:

"Кулачэнькі пад бачэнькі

Ды спаты лягаю".

На што дружына аўтарытэтна зазначыла:

- Даўно пара! Гэць у салому.

Урэшце і Андрэй адчуў меру ды сказаў:

- Хопе!

Жінка пагадзілася з ім. Міклашэвіч зразумеў, што тымі ўспамінамі ён развярэдзіў іх душу і вырашыў панахабнічаць. Тут ён папрасіў у жанчыны колькі буракоў, морквы і іншай зяляніны ды патлумачыў, дзеля чаго тое трэба. Кабета ўсміхнулася і сказала:

- Іды да буды. Заўтра ўсэ будэ.

Настрой, як кажуць беларусы, стаў ніжэй плінтуса. З такой "радасцю" ён паплёўся на кватэру ды заваліўся спаць.

У дзевяць гадзін раніцы яго пабудзіў Джон. На пальцах ён патлумачыў, што да яго прыехалі госці. У двары Андрэй пабачыў неверагоднае. Оксано выстаўляе на стол у альтанцы Смітаў розных формаў тэрмасы. Стэпан цалуе і ціскае Хелену ды гладзіць другою рукою іх чарнаскурых дзетак. Пасля таго, як на стол былі пастаўлены дастаўленыя смакалыкі, жынка дастала з-пад фартуха з адметным украіскім арнаметам двухлітровую бутлю закаркаванага сургучовай пячаткаю "Спатыкача" і пачала чмокаць Джона. Той не супраціўляўся, а Хелена, гледзячы на гэта, як магла цярпела, але скрыпела зубамі.

Андрэй быў бязмерна ўдзячны за такі пачастунак. Ён правёў сваіх выпадковых знаёмых на вуліцу да машыны, абняў у знак падзякі Оксано і пацалаваў ў вусны. Калі ён рабіў тое, то адчуў нечая рука залезла ў яго кішэню. Потым ён там знайшоў "зялёныя". Сцэпан на

развітанне доўга ціснуў руку, а калі адпусціў, то ў руцэ засталося дзве сотні "зялёных". Гэта ўзрадавала Міклашэвіча - "халява" і не абы якая.

Па вяртанні Андрэй пабачыў, як дзеці гаспадароў уплятаюць - аж шоргат ідзе за вушыма - украінскі боршч. Хелена штосці сказала мужу і пайшла. Джон патлумачыў як мог, што стравы хапае і ён не будзе гатаваць барбек'ю, чым узрадаваў Андрэя.

Сёння ў праграме навучання меўся адбыцца асаблівы дзень: да Стоўнаў павінны прыехаць сваякі, каб паглядзець на кватэранта - няведамы для іх цуд з Старога свету. Андрэй зразумеў, што без перакладчыка гутаркі не будзе. Тое ён распавёў гаспадару і падняўся наверх, на ўсялякі выпадак патэлефанаваў Тані. Яна адказала не адразу, відаць яшчэ спала. У яе голасе не было ўчарашняй злосці.

- Ты сёння надта занятая.

- Збіралася ісці на пляж. А што?

- Тут патрэбны перакладчык. Гадзіны на тры. А потым на пляж.

- Буду.

Таня прыехала на таксоўцы. Апранутая ў выключна дзелавы строй: чорная да кален спаднічка і гэткі чорны каптанчык ды белая кофтачка.

Госці ўжо сядзелі за сталом: у шортах, распіленых да пупа сарочках. Гэта былі два сямейства, як тлумачыў Джон, нашчадкі палякаў па лініі жонкі, што калісьці пасяліліся ў Чыкага. Хелена насыпала ім ўкраінскі боршч. Андрэй знакам паказаў, што да стравы згатаваны пампушкі.

Затым ён, сказаўшы "ам соры", павёў Таню ў свой пакой. Дастаў з валізы ільняны набор з шортаў, спаднічкі і цішоткі ды загадаў:

- Перапранайся.

Яна выбрала для сябе шорты і белую цішотку з "Пагоняю" ды пачала распранацца.

- Адвярніся. Мне сорамна.

- Разумею. Аднак сёння Шабат і мне ўсё дазволена.

- Яшчэ не вечар, а пакуль абыдзешся.

Джон адкаркаваў бутлю і разліў па невялікіх чарках. Гарылка была настолькі мяккая, што пілася як звычайная негазаваная вада. Госці ацанілі прадукт. Надалей пад несупыннае ўжыванне "Спатыкача" яны наперабой распытвалі Андрэя пра былую іх Бацькаўшчыну, потым распавядалі пра сябе і паходжанне сваіх продкаў.

Міклашэвіч усё болей і болей ўпэўніваўся, што яны не ведаюць сапраўднага радавода сваіх продкаў і сцверджанне іх, што тыя былі палякамі не пацвярджалася, бо з іх вуснаў не прагучала ні адзінага польскага слова і ўпамінання мясцовасці пражывання тых у мінулым.

Нягледзячы на ўжыванне каларыйнага ўкраінскага баршчу, пасля варэнікаў і мяса, тушанага з маладой картопляй, "Спатыкач" пачаў рабіць сваю справу. Сміт пачаў нешта мармытаць, Біл меў такі ж стан ды і Джон быў ім роўня. Кабеты гаманілі абы што. Колькі не паказваў Андрэй Тані на пальцах: ні пі, яна ігнаравала папярэджанні і наклюкалася. Андрэй забраў з пакоя гарнітур Васэрман, акуратна ўзяў яе пад руку і павёў да таксоўкі. У гэты час ён пабачыў, што Сміт паклаў галаву на стол і заснуў. Біл прылёг на лаўцы. Джон нешта казаў сам сабе і махаў рукамі. Андрэй гледзячы на гэты шэдэўр, што маглі стварыць сучасныя імпрэсіяністы ды назваў тое палатно так: "Адпачынак ірландскіх казакоў з Чыкага пасля напісання ксівы турэцкаму султану супольна з запарожцамі".

Таксоўка ўжо чакала. Шофер спагадліва паглядзеў на Таню і выключна па-расейску зазначыў:

- Гатавальня. Імрэза ўдалася.

-Не. Проста была дэгустацыя ўкраінскай гарэлкі "Спатыкач".

-Тады зразумела. Я б і сам храпнуў бы шкляначку.

На развітанне таксоўшчык папярэдзіў Міклашэвіча:

-Будзь асцярожны! За спойванне і ўжыванне малалеткі тут могуць шмат упаяць.

Андрэй з неймавернымі патугамі даставіў Таню на кватэру.

Разаслаў ложак. Распрануў яе, нават, як дыпламаваны станочнік, зняў станік, каб не пакутавалі яе непаўторныя бугры Венеры. "Малалетка", як кажуць у такіх выпадках беларусы, была дровы, але нешта няўцям ўсведамляла і прамовіла:

- Будзеш кахаць - не будзі!

Андрэй усміхнуўся і адказаў:

- Не! Сёння не буду.

Таня тады прамармытала наступнае, што вельмі здзівіла Міклашэвіча, бо падобнае яму даводзілася чуць ад беларусак, калі мужчына адмаўляў ім у блізкасці.

- Ну і хадзі галодны.

У гэты момант Міклашэвіч зноў усумніўся ў яе жыдоўскім паходжанні.

Гадзіну Андрэй правёў у парку, дзе забаронена выгульваць

сабак, але не гадзіць птушкам, і вярнуўся на кватэру. Госці раз'езаліся, у альтанцы нікога не было. На стале заставаліся астаткі балю. Ён наліў сабе ладную шклянку "Спатыкача", асушыў яе, закусіў, што трапілася пад руку і падняўся да сябе. Праз разчыненыя дзверы спальні было відаць, што Джон і Хелена ляжаць не распранутыя поперк ложка і храпуць.

У нядзелю Андрэй не мог нікуды з'ехаць, бо Джон даўно ўжо запрасіў наведаць у гэты дзень службу ў іх царкве і сустрэчы з ім вельмі пажадаў прасвітар. Міклашэвіч хацеў у гэты дзень выглядаць належным чынам: касцюм, гальштук. Як толькі пабачыў, што Джон збіраецца ісці на святую імшу ў джынсах і звычайнай сарочцы, апрануўся як і гаспадар. Не лепшым чынам у апратцы выглядалі і дзеці Стоўнаў. Хелена на службу не пайшла. Высвятлілася, што яна наведвае іншую царкву. Храм знаходзілася на суседняй вуліцы. Будынак уражваў сваёй веліччу: высокі гмах, прасторная малельная зала, лавак са сталамі не менш як на паўтысячы вернікаў. Унізе пад сталом перад кожным малельнікам ляжаў малітоўнік. У той дзень на службу ў царкве сабралася болей за сотню чалавек. Усе яны селі паасобку. Толькі Джон з дзеткамі і госцем селі побач. З'явіўся прасвітар і пад сутанаю (так называла мама Андрэя убор ксёндза) былі бачны джынсы. Ён падняўся на ўзвышшы ў царкве, якая нагадвала Міклашэвічу сцэну вясковага клуба, ды распачаў службу. Пасля колькіх уступных слоў святар заспрасіў паству ўзяць малітоўнік і прачытаць модлу на названай старонцы. Усе ўсталі, узялі кніжкі і распачалі казанне. Разам з усімі ўстаў і Андрэй, абы-дзе раскрыў малітоўнік і пачаў у такт святару варушыць губамі. Тое падчас імшы адбывалася некалькі разоў. Затым да прасвіцера далучыліся ў царкоўных строях маладыя хлопцы і дзяўчаткі ды заспявалі песню ў пахвалу Богу. Пасля чаго была споведзь вернікаў і прычасце з абавязковымі ахвяраваннямі царкве. На тым служба, што доўжылася не болей як паўтары гадзіны, скончылася. На выхадзе з царквы Міклашэвіча прыпыніў Джон.

- З табой хоча перамовіць прасвіцер.

Неўзабаве да іх падыйшоў хударлявы мужчына ўзростам Джона і назваў сябе.

- Майкл! Прафесар, калега Джона.

- Андрэй!

Як і чакаў Міклашэвіч, прасвіцер-прафесар распачаў гутарку пра рэлігійную дзейнасць цэркваў пратэстанскага накірунку ў Беларусі і пачаў з той пазіцыі, што такіх там няма ці брак. Майкл, у

адрозненні ад Джона, валодаў расейскаю моваю лепш, і таму гутарка пайшла ў адкрытую.

- Я не ведаю царкоўны патанцыял двухмільённага Чыкага, але магу сказаць за мястэчка, дзе я жыву. Там пражывае пятнаццаць тысяч насельнікаў. Акрамя праваслаўнай і каталіцкай канфесій, афіцыйна зарэгістраваны пяць пратэстантскіх: евангелісты, баптысты, баптысты-пяцідзесятнікі і г. д. Яны за грошы сваіх заходніх спонсараў уставяць храмы і малельныя дамы. Ёсць некалькі незарэгістраваных цэркваў, але яны на забарону не звяртаюць увагі і дзейнічаюць.

Тут святар змяніў сваю тактыку. Ён дабразычліва распавядаў пра варункі ўтварэння іх царквы, накірункі яе дзейнасці і царкоўныя каштоўнасці. Сярод іншага не прамінуў сказаць, што іх сабор быў збудаваны на ахвяраванні вернікаў і спонсарскую дапамогу без датацый дзяржавы. Урэшце выказаў жаданне, што мае надзею мець прыхільнікаў тае царквы на Беларусі і Андрэй акажа ў тым дапамогу. За фінансавай падтрымкай іх царква не пастаіць. На тым і разышліся.

Па дарозе дамоў Міклашэвіч ламаў галаву, якую знайсці нагоду ды сысці ад Стоўнаў, каб у чарговы раз не есці тое барбеку. Выхад знайшоўся сам па сабе. Ля ўвахода на падворак стаяў Антон. Андрэй пазнаёміў яго з гаспадаром і сказаў, што з калегаю пойдзе на адну імпрэзу, а пасля будуць назіраць захад сонца на Мічыгане. Апошняе было сказана з надзея, што Джон дзеля адпачынку аддасць ім астаткі "Спатыкача". Спадзяванні засталіся марнымі. Тады Андрэй падняўся да сябе, узяў невялікую частку заначкі, спрэзэнтаваную ўкраінцамі, і яны пайшлі спачатку да адзінай  крамы непадалёку Мічыгана, дзе можна купіць гарэлку, а затым на бераг возера. Антон распавядаў пра сваё наведванне царвы. Гэта была нейкая рэлігійная секта, якую ён абазваў "маўчуны". І меў на гэта падставы. На службу ў вялізным будынку сабралсе не болей за пяцьдзесят вернікаў. Увайшоў святар, павітаўся і папрасіў узяць Біблію і назваў модлу, якую яны павінны сёння прачытаць. Людзі адгарнулі неабходую старонку і моўчкі пачалі чытаць тэкст. Калі чытанне скончылася, яны падняліся і пасля невялікага царкоўнага рытуалу сышлі. Андрэй і Антон пакінулі бераг Мічыгана, калі сцямнела і напоі скончыліся.

Назаўтра Таня з'явілася ў ільняной кароткай спадніцы і цішотцы з "Пагоняю" ды выхвалялася, што гэта ёй падарунак за ўдала праведзеную дзелавую сустрэчу. Усе зайздросцілі цудоўнаму ільнянаму падарунку, бо нешта падобнае ў Чыкага было не набыць, а ў Беларусі толькі па блату.

Міклашэвіч з гэтай нагоды ў чарговы раз выказаў з'едлівы сарказм:

- Не апратка, а проста цуд. Вось толька ганьба беларускай вытворчасці. Майткі з лёну не могуць вырабляюць. А так бы і спаднічку можна было б вышэй падняць, каб увесь той цуд паказаць.

Таня не засталася ў даўгу:

-Табе, Андрэй, сцяг у рукі і барабан на плечы, як сапраўднаму савецкаму піянеру. Па вяртанні на радзіму арганізуй тую вытворчасць, як прафесійны станочнік. У дадатак займееш ганаровы статус апранальніка жаночых майтак.

Пасля прэзентацыі беларускага лёну ў Чыкага, якую правяла "непаўналетняя" Таня Васэрман, куратары прапанавалі выказаць свае думкі наконт наведвання беларусамі рэлігійных устаноў. Сюзана і Рой па чарзе называлі прозвішчы стажораў і царкву, якую яны наведвалі. Андрэй шапнуў Аркадзю:

- Глядзі, як у іх усё і ўсе мы пад кантролем.

Красамоўнасці беларусам не займаць. Усе па чарзе распавядалі сваё наведванне той ці іншай царквы. Хвалілі рытуал, убранне, гмахі сабору і г. д.

Андрэя, які слухаў гэтыя хвалебныя рэляцыі, пачало разбіраць нейкае дзіўнае пачуццё, якое несупынна ўзрастала. Калі дайшла да яго чарга выказваць сваё меркаваня, ён адразу ашаломіў усіх.

- Я да ўсіх рэлігій стаўлюся абыякава.

У аўдыторыі пачаліся шэпты, воклічы абурэння.

- Спакойна! Толькі спакойна. Я ў вольнай краіне, дзе свабода думкі не забаронена і таму маю поўнае права яе выказваць. Магу з упэўненасцю сказаць, што палова з нас тае Бібліі ў руках не трымала, а тыя, хто трымаў, засыналі на другой старонцы. Біблію я пачаў чытаць, калі мне не было і дзесяці гадоў. Яе падараваў дзед са сваёй бібліятэкі. Цяжка давалася тое чытво, бо пісана было старацаркоўнаю мовай. Аднак чытаў. Пасвіў кароў і зачытваўся так, што скаціна рабіла патраву, і тады прыходзілася азадкам несці адказнасць за вывучэнне Слова Божага.

- І пан Бог не заступаўся за цябе? Чаму? - хіхікнуў Вайтовіч.

- Відаць, у гэты час Гасподзь быў пільна заняты. Ты яго навучаў граць на мандаліне.

Аўдыторыя са смеху легла покатам. Андрэй працягваў:

-Потым дзед мне падсунуў польскамоўны варыянт Бібліі. У сваіх пазнаннях рэлігіі я яшчэ ў дзяцінстве даведаўся, што сапраўднае імя Ісуса - Ешуа і ён толькі сын Божы, а самога Бога, між іншым,

зваць Саваоф, а не Яхвэ. І цяпер іншыя святары на мой запыт - скажы імя Бога? - на поўным сур'ёзе цвердзяць, што гэта Ісус. Мае пазнаннні рэлігіі аднойчы прывялі мяне да трывіяльнага пытання: "Ці быў справядлівы ў Садоме?" На яго і зараз не маю адказу. Пасталеўшы, зацікавіўся пытаннем колькасці рэлігій, якіх раней было і якіх цяпер ёсць на абшарах зямной кулі, і чаму людзі зрынаюць аднаго бога і пачынаюць узносіць модлы іншаму? Неўзабаве гэты занятак закінуў, бо зразумеў - здзейсніць тое немагчыма. І прыйшоў да высновы, што чалавек сам сабе стварае Бога і хіліцца да таго, ці іншага, каб мець нейкую выгаду. Іншавернікаў проста забівае. Забіваюць, нават пераступіўшы запавет: не забі. Што датычыць майго наведвання тае царквы, то яна мае невялікую адметнасць ад цэркваў пратэстанскага накірунку. Пасля службы са мной гутарыў прасвітар. Відаць, чалавек практычны. Калега па працы гаспадара. Яго цікавіла толькі адно: ці можна знайсці прыхільнікаў іх царквы ў Беларусі? Вось такі мой адказ на ваш запыт. І напрыканцы я хацеў бы колькі слоў сказаць сваім калегам па навучанні: да ўсяго трэба ставіцца абачліва і крытычна. У такіх выпадках мне прыпамінаюцца радкі з санета "Наша няшчасце" славенскага паэта Франа Леўчыка:

свaё - аплёўваць, не сваё - хваліць, -
вось тое зло, што нас ператварыла
ў нясчасны люд, а не чужая сіла.

Пасля чаго ён міжвольна глянуў на Таню. Па рухах яе рук было бачна, што яна хоча біць у ладкі. Затым была арганізавана экскурсія па Чыкага, па месцах агульнага пражывання перасяленцаў з той, ці іншай краіны. Падчас вандроўкі госці даведаліся, што гэта зусім не польскі горад, як было прынята казаць на іх радзіме, бо з ўсяго насельніцтва Чыкага палякі зараз складалі толькі шэсць працэнтаў, а мексіканцы - васемнаццаць. Праязджаючы невялічкі квартал прыватных дамоў, дзе пражывалі ўкраінцы, Андрэй пільна ўглядваўся ў падвор'і з надзеяю пабачыць асабняк Оксаны. На гэта Сабіна звярнула ўвагу і запытала:

- Што ты выглядваеш?

- Ды вось шукаю месца, дзе пасля можна атабарыцца.

- І прывезці сюды "Тормаз ад "БелАЗа", - з'едліва ўдакланіла Таня.

На гэты выпад перакладчыцы Міклашэвіч нічога не адказаў. Сярод іншага найбольш запомніўся мексіканскі квартал, дзе амаль не ў кожным двары можна было пабачыць па некалькі дзясяткаў жыхароў, і тут, як звычайна, гарэў мангал ды рыхтавалася ўсё тое ж

барбекю. А на кожным доме вісеў абраз з выяваю Маці Божай, апякункі мексіканцаў. Пасля заканчэння экскурсіі на выхадзе з аўтобуса Таня ўсміхнулася Андрэю і сказала:

- Гэта табе за ільняныя майткі. Спадзяюся, мы квіты і вайна між намі скончана.

- Я не палестынец з якім можна ваяваць бясконца і не лічу тое вайною. Гэта проста лёгкі жаночы флірт.

Напрыканцы заняткаў куратары папрасілі навучэнцаў выказацца пра пабачае імі. Казалі коратка, бо няўмольна надыходзіў час наведвання "Алегра". Калі прыйшла чарга выказвання Андрэю, ён таксама быў сціплы ў меркаваннях.

- Гэта калейдаскоп супольнага існавання людзей розных адценняў скуры і неймавернай колькасці нацыянальнасцей. Глядзець можна бясконца. Каб не губляць час, скажу за Антона.

- Што яшчэ за мяне баўтанеш?

- Прачырыкаю. Антону даспадобы мексіканскі квартал. Там на падворышчы пройма слухачоў, якім цэлы дзень няма чым заняцца. Гітару ў рукі і спявай. Што яшчэ трэба сапраўднаму трубадуру. Таго глядзі і пару кавалкаў барбекю зарабіць можна. Праўда, Антон!

- Святая праўда, камандор! Аб'яўляй паход на "Алегра".

Пасля спрэчак на беразе Мічыгана, Андрэй позна вяртаўся дадому. Па дарозе яму патрапіўся Джон з касетамі відака. Як мог, ён патлумачыў, што ідзе абменьваць іх на новыя і дадаў, што Хелена любіць глядзець фільмы ноччу, калі ён спіць.

Гаспадар крамы прыветліва павітаўся з ім і пачаў паказваць новыя паступленні. Парнуха была чарней, чым скура дзетак Стоўнаў ды ў перамежку з групавухаю. Тое, што адбылося паміж госцем і гаспадыняй, за што дакараў сябе Міклашэвіч, зараз уяўлялася яму дзіцячаю гульнёю. Андрэй зразумеў, чаго не хапае ў жыцці Хелене. Джон быў бязмерна задаволены набыткамі.

Аўторак і серада апошняга тыдня стажыроўкі прайшлі без асаблівых прыгод. Андрэй, як выдавец бюлетэню, па запланаваным спісе мерапрыемстваў наведаў рэдакцыю газеты "Чыкага трыбюн". Яго вельмі здзівала такая прыхма гаспадароў, каб рэдактар местачковага выдання, якое выходзіла з перыядычнасцю яго жадання, мог азнаёміцца з працай такога медыягіганта, тыражом у некалькі мільёнаў экзэмпляраў, у коляры, аб'ёмам болей за сотню старонак. Удзельнікаў дэлегацыі, калі яны яшчэ жылі ў гатэлі

"Тэбалт", здзіўляла тое, што ўжо ў шэсць гадзін раніцы газета ляжала каля ўваходных дзвярэй у нумар. Калі яны з Джонам пераходзілі вуліцу перад гмахам рэдакцыі, дагараў гарадскі аўтобус, але побач не было ні аднаго карэспандэнта, які асвятляў падобныя падзеі.

Супрацоўнік узросту Стоўна, відаць сябра, распавядаў пра газету, адказаў на колькі пытанняў, паказаў працоўную залу, якая нагадвала футбольнае поле, застаўленае сталамі з кампутарамі. За імі сядзела не больш дзясятка чалавек і займаліся наборам тэкстаў. Затым была непрацяглая гутарка пад каву. Аднак надарыўся адзін эпізод, які пацешыў Міклашэвіча. Пасля наведвання рэдакцыі, у яго было некалькі вольнага часу, і ён бестурботна бадзяўся па вуліцы. Праходзячы міма адной рэстарацыі, дзе на газоне месцілася летняя зала, убачыў, як адзінока за столікам сядзела беласкурая маладзёна і эфектыўна працуючы адметнымі нажом і відэльцам апетытна паядала … звычайныя пярлацыцы, якія сустракаюцца ў нашых рэках. Пасля варкі яны расплюшчвалі свае створкі, і яна эффекта даставала іх белае цела ды з вялікі задавальненнем клала ў рот. Было відаць, што гэтая страва ёй даспадобы. Андрэй крыху прыпыніўся, зрабіў выгляд, што нечым заклапочаны, а сам назіраў за тым, як гэта ўсё адбываецца. Напачатку ў яго тое выклікала агіду, бо ён успомніў, што ў маленстве на Нёмане адбылося нашэсце гэтых стварэнняў, і маці штодня яго пасылала на рэчку па кошык перлавіц. Яна іх варыла ў чугуне і высыпала ў карыта свінням. Працэс паядання адбваўся ўмомант, у імгненне вока ў карыце заставаліся адны чарапкі. Яшчэ доўга свінні, лычом піхаючы адно аднаго, пераварочвалі іх, шукаючы той спажывы. Свінні хутка папраўляліся.

Агіда неяк прайшла сама сабою, бо Міклашэвіч успомнеў як, будучы студэнтам, в'етнамцы частавалі яго сабачымі каўбаскамі. Не званітавала, калі даведаўся. Паразважаўшы, ён прыйшоў да высновы, што гэта сапраўды самы чысты біялагічны прадукт, бо перлавіца акрамя вады і жвіру, не мае болей ні з чым кантактаў.

Чацвер быў самы радасны дзень у стажыроўшчыкаў. Зранку іх запрасілі ў банк. Атрымаўшы (па вобразнаму выказванню Антона) "пайкавыя", беларусам напомнілі, што для сваіх родных і блізкіх яны павінны набыць прэзенты. Радасць ва ўсіх была неймаверная. Толькі адзін Андрэй да гэтай акцыі арганізатараў паставіўся абыякава і ў поўны голас выказаўся:

- Вы хацелі Новы свет пакінуць без "зеляні" і звесці яе да Сінявокай. Не тут было - халява адмяняецца. Што атрымалі - пакінеце

тут, і тое пойдзе на ўздым тутэйшай эканомікі.

Іх адвезлі ў гандлёвы цэнтр, дзе каля дзясятка паверхаў з падземнай паркоўкай. Андрэй яго наведаў пару дзён таму назад. Хелена, па ёй відаць, хацела хоць нейкім чынам аддзячы Андрэя за іх блізкасць, якая ёй была даспадобы. Яна ўгаварыла Джона наведаць адзін з гандлёвых цэнтраў, а не шапікі кітайцаў, у якіх можна набыць звычайнайную дрэнь, каб госць мог купіць вартыя падарункі сваякам і знаёмым. Яны не сталі падымацца на паверхі, дзе, як патлумачыў Джон, тавар дарагі, а спусціліся ў падвальнае памяшканне. Гэта была вялікая гандлёвая зала ды ў ёй можна набыць што заўгодна па нізкім кошце. Тавар перапаўняў памяшканне, і таму, прыкладам, на ўваходзе на сцелажах горамі ляжалі разнастайных памераў джынсы ды іншае адзенне. Нізкі кошт тавару вызначаўся тым, што ён ужо не меў попыту, выйшаў з моды, змяніўся фасон, колер і шмат яшчэ чым. Тавар быў якасны.

Тое што не адпавядала густам амерыкосаў, для беларусаў было шыкам. Кошт Андрэя асабліва не турбаваў, бо ён меў грошы і ашчаджваў іх, як усе, толькі не на алкаголь. Тут пакупнік прыкінуў, хто са знаёмых варты амерыканскіх прэзэнтаў і хутка з дапамогаю Хелены набыў патрэбныя рэчы.

Дома, як толькі Джон з сынамі пайшлі займацца спортам, закупы былі абмыты. Калі Міклашэвіч распакоўваў іх па сумках у пакой зайшла Хелена. Яна прынесла два тостэры і дзесяце грамаў віскі. На ёй быў шыкоўны спартыўны касцюм. Андрэй падзякаваў яе за пачастунак і стаў працягваць працу далей. Жанчына хвіліну ў надзеі пастаяла і моўчкі сышла.

Як сябры дэлегацыі памкнулі на паверхі, Міклашэвіч затрымаў Аркадзя.

- Не хадзі туды. Там ўсё дорага. Пайшлі пакажу, дзе зможаш набыць усё неабходнае табе і танным коштам.

Сам выйшаў на вуліцу. Прысеў на лаўку ў цяні невядомага яму дрэва і пачаў назіраць за дзвюмя жывымі статуямі, якія свяціліся бляскам ад нанесенага на іх крэму. Яны пякліся на сонцы, але не варушыліся. "І чаму гэта ў Чыкага няма ні мухаў, ні восаў, - падумалася Андрэю, - я б тады паглядзеў, ці стаялі б яны нерухома".

Неўзабаве з'явіўся задаволены Піліпчук з некалькімі вялізнымі пакетамі ў руках. Хутка з гандлёвага цэнтра пачалі выходзіць, бармочучы, незадаволеныя беларусы:

- Кошты! Ну і кошты!

- А вы хацелі таннае, як на "Камароўцы", - пракаментаваў іх

абурэнне Міклашэвіч.

Аркадзь паказаў ім свае закупы і параіў спусціцца ўніз. Толькі праз дзве гадзіны апошні пакупнік з дэлегацыі выйшаў з крамы. Ім быў Вайтовіч. Упакаваўшыся ў аўтобус, дэлегацыя, перабіваючы адзін аднаго, распачала гаману пра закупы. Рой запытала ў Андрэя, чаму ён нічога не набыў. Той на поўным сур'ёзе адказаў:

- Што купляць! Што купляць! Няма ні галёшаў, ні кірзачоў. Гандлёвы цэнтр называецца, вось ГУМ наш - справа іншая.

- Не хвалюйцеся! Ён свайму "Тормазу ад БелАЗ" усяго даўно накупляў, - пакпіла Таня.

- Лішняга і свінні не ядуць, - толькі змог вымавіць Міклашэвіч і адвярнуўся.

Пасля заняткаў ён не пайшоў у "Алегра", а паплёўся проста да Мічыгана. На душы было сумна. Папярэдне ён зайшоў у гарэлачную краму, купіў віскі і колькі невялікіх шакаладак. Сеў прама на пясок і пачаў назіраць, як у далечыні злучаюцца сінь нябёсаў і зялёныя хвалі водаў возера. Нечакана нехта сеў з ім побач і паклаў галаву на плячо.

Прагучаў ціхі Танін голас.

- Не ведаю, што са мной сталася. Ужо каторы дзень запар не знаходжу сабе месца ад думкі, што ты з'едзеш і болей ніколі не пабачу цябе.

Пятніца. Апошні дзень заняткаў. Як звычайна, сабраліся ў аўдыторыі. Куратары напаследак прапанавалі стажорам выказаць свае думкі пра незакранутыя падчас навучання тэмы. Магчыма, тое ім спатрэбіцца ў будучым. Адна паляшучка, якая несупынна казала, што яе вечна прыгнечвае іх выключна працоўны жаночы калектыў, паскардзілася, што не звернута ўвага на такое пытанне, як гендэрны баланас. Андрэй, які ўжо дакладна ведаў, што ён сёння будзе станочнікам, наладчыкам вады ў душы, яшчэ ўжываць віскі пад пікантную афрыканскую страву і ноч выконваць нейкуя іншыя абавязкі, аб чым загадзя яго папярэдзідзіла Таня, а ён сказаў Стоўнам, што наведае зямляка з начоўкай, паводзіў сябе адвольна. Седзячы ў апошнім радзе, Міклашэвіч паклаў рукі на стол і паўсогутымі далонямі рабіў выкрунтасы. Потым нечакана для ўсіх прамовіў:

- Ніяк не магу ўцяміць, як яны дзяцей зачынаюць?

Аўдыторыя азірнулася і на хвіліну аціхла, затым яе ахапіў дружны смех. Сабіна хацела ў дадзены момант мець важкі аўтарытэт кіраўнічкі групы:

- І аб тым кажа мужчына ў сорак гадоў, які мае сваіх дзяцей. Смеху варта. Знайшоў пра што клапаціцца.

-Толькі не варта рабіць з мяне сэксуальнага невука. Пра твой клопат я ведаю. Прырода - ад гэтага нікуды не дзенешся. З гендарным балансам мне таксама ўсё зразумела. Кіраўніку на руку, што яго падначаленыя дзеля таго не шукаюць нагоды адлучыцца на гадзіну-другую з працы і выдумляюць дзеля гэтага неймаверныя прычыны: у цешчы вольнасць, дзеці глупства ўчынілі, суседка пільна прасіла дапамагчы ў адной пікантнай справе і т. д. Адным словам, бобік здох і дазвольце пайсці для развітання з ім. А так тую справу яны могуць зрабіць, не пакідаючы рабочага месца. І час эканоміцца і рабочы настрой падымаецца, эфектыўнасць працы большае. Толькі я не аб тым.

Ён надалей працягвае рабіць выкрунтасы рукамі. Слухачы прыціхлі і, ведаючы нестандартныя прыкіды Андрэя, сталі чакаць, што будзе далей.

- А вось аб чым. Гэта звязана з братам нашым меншым. Ну ніяк не магу зразумець, як у вожыкаў адбываецца працяг іх роду. Тут калючкі і там калючкі. Сцены аўдыторыі задрыжалі ад смеху. Перадольваючы гагатанне Таня запытала:

- Дзе ж ты такі нарадзіўся?

Адказ быў нечаканым для ўсіх.

- У возе.

Зноў наступіла нямая цішыня.

- На поўным сур'ёзе кажу, у возе. Мама адчула, што прыходзіць час з'яўлення на свет Божы новага праведніка, і сказала аб тым бацьку. Ён запрог у воз каня, кінуў у драбіны бярэмя сена, пасадзіў маці ды памкнуў з хутара ў мястэчка да лякарні. Пэўна, каляіна была разбітая, воз трэсла і, магчыма, гэта стала прычынаю майго хуткага ўцёку з лона маці, а можа я проста хацеў дарогу пабачыць, па якой мяне вязуць да таго мястэчка. Адным словам да местачковай лякарні мы даехалі ў чатырох: тата, мама, я і конь з возам… Ну, што іржэце, як той буланы па часе майго нараджэння. Жывёліна шчыра радавалася майму з'яўленню на свет. А вы чаго зубаскаліце?.. Не, усё правільна! Нават у самай сур'ёзнай справе павінна быць вясёлая хвілінка. Расслабуха. Апасля і тэма гутаркі бачыцца ў шырэй, узнікаюць новыя ідэі.

Якіх толькі тэм не падымалі беларусы на апошняй сустрэчы ў той дзень: ад палёту чалавека на Венеру да раставання леднікоў Грэнландыі. Яны клапаціліся пра лясы Амазонкі, лёс Аральскага

мора, распрацоўку капальняў на Месяц і яшчэ шмат аб чым. Праблемы Беларусі і беларускасці былі наўшчэнт пазабыты. Як дайшла чарга да Міклашэвіча, то ён сціпла зазначыў:

- Тэм даследавання чалавека і прыроды невычарпальна ў нашай цывілізацыі…

- Ты, філосаф, - спрабуючы быць сур'езным, хмыкнуў Антон.

Міклашэвіч адсек яго ўраз:

- Я нічые выступы не каментаваў і не перабіваў іх. І твой пінігрэнік, сябра… Між іншым, па вяртанні на Бацькаўшчыну я паспрыяю табе ў пластычнай аперацыі на нос. Ён стане прамым і, як ва ўсякага беларус, а будзе канчацца вялікай бульбінай. І маю надзею, што лазіць на суседскія грушы ды ламаць насы болей не будзеш. Аўдыторыя у каторы раз покатам пакацілася ад смеху. Адзін Андрэй заставаўся сур'ёзным.

- У выніку нашай вандроўкі я прыйшоў да такой высновы: усе мы, незалежна ад колеру скуры, веравызначэння, светапогляду і рознага кшталту памкненняў - хама сапіес. Чалавек думаючы. Вось толькі як і аб чым ён думае - вялікая таямніца. Кожны з нас імкнецца стварыць дабрабыт, як для сябе і для іншых, так і праблемы.

- А якога ты веравызнання? - нечакана для ўсіх запытала яго Таня.

- А ніякага, - уздыхнуў Андрэй. - Толькі аднаго не магу ўсвядоміць: чаму нашыя продкі ўпадабалі Саваофа і зрынулі Ярылу?

Тэматыка вычарпала сябе, як толькі наблізілася пяць гадзін вечара - час ісці ў "Алегра".

Таня спаслалася, што ёй трэба наведацца на пляж, а Андрэй - на запланаваную сустрэчу з сябрам, таму апошняе наведванне рэстарацыі і ўжыванне дарэмнага кіслага каліфарнійскага віна беларусамі адбылося без іх.

Таня і Андрэй праз хвіліну сышліся і неўзабаве апынуліся ў яе на кватэры. Пераступіўшы парог, яна ці то жартам, ці то ўсур'ёз сказала:

- Сцэнар табе знаёмы. Толькі набярыся мужчынскага цярпення, Шабат сёння будзе доўжыцца да самага ранку. Не сапсуй мне свята.

Субота - развітальны дзень. З гэтай нагоды мелася адбыцца святочнае мерапрыемства. І яно адбылося на сядзібе арганізатаркі гэтага навучання. Аказалася, яна пражывала праз два дамы ад Стоўнаў. Гэтая імпрэза нічым не адрозніваласяад беларускіх: стан-

дартныя казанні арганізатараў, узнёслыя падзякі гасцей ды фуршэт. Міклашэвіч за ўсім гэтым назіраў абыякава і нават выпіў толькі адзін фужэр кіслага белага віна. Да Тані, як бы ні хацелася, не пайшоў: двойчы развітвацца не яго прынцып. Давялося прайсці маршрут, што ён праклаў у чацвер вечарам, толькі ўжо аднаму.

У нядзелю ранкам Міклашэвіч развітаўся з сям'ёй Стоўнаў, атрымаў у падарунак дзве цішоткі, а Джон адвёз яго ў аэрапорт.

Гаспадары субіралі Сяргея Ламейку доўга. Накуплялі розных падарункаў: для яго, жонкі, дзетак. Неяк аднойчы ён, як бы незнарок успомніў, што ў яго ёсць бацька, маці, трое братоў і дзве сястры, а таксама цесць з цешчаю, якія хацелі б нешта мець на памяць аб усімі любімай Амерыцы. Грэг Сміт і Мэры таксама выканалі пажаданне госця. А паколькі ўсе прэзенты не змяшчаліся ва ўласныя валізы, то гаспадарам прыйшлося патраціцца і на іх.

Развітваліся пэўна гадзіну часу: абдымаліся, цалаваліся, казаліся зычныя словы, ліліся шчырыя слёзы. Сміты праводзілі Сержа толькі да агарожы дома, бо ён, паважаючы іх старасць, адгаварыў іх весці яго ў аэрапорт. Гэта пагадзіўся зрабіць яго новы амерыканскі сябра. На вуліцы яго ўжо чакаў шыкоўны кабрыялет. За кіраўніцаю сядзеў Якуб.

- Добры дзень, Сяргей! - з яго вуснаў лілася цудоўная мілагучная беларуская мова.

- Хэлёў, Акуб! - гэта было адзінае ангельскае слова, якое засвоіў Ламейка, але вымавіў так, што разабраць яго было проста немагчыма.

Умомант былі ўкладзены рэчы, і машына ірванула ў супрацьлеглы ад аэрапорта бок.

Пакуль яшчэ зусім цвярозая дэлегацыя беларускіх стажораў у чыкагскім аэрапорце А'Хара да апошняй хвіліны напружана чакала прыезду самага шчырага з іх усіх беларуса Сяргея Ламейка. Напачатку жартавалі, жартавалі прыкра, потым па незразумелых прычынах пачалі выказваць адзін аднаму кпіны. Няўмольна набліжалася хвіліна адлёту і, калі распачалася рэгістрацыя пасажыраў, усіх ахапіў сум па чарговым палітычным эмігранце малакалькаснай беларускай апазіцыі. Усім так падказвала сэрца. А ў гэты час шчыры прыхільнік беларускага слова, гарачы бел-чырвона-белы патрыёт бацькаўшчыны, парваў на шматкі сіненькі звонку беларускі пашпарт, а чорнаскуры прыхільнік далёкіх васільковых палёў выкінуў

яго рэшткі ў Мічыган.

Неспадзявана ў зале адлёту з'явілася Таня. Яна прабегла вачыма па тысячным натоўпе пасажыраў, што чакалі адлёт. Яе позірк перасёкся з Міклашэвічавым. Андрэй падышоў да яе. Запыт Васэрман быў кароткі:

- Ты быў у Міёрах?

- Да гэтага часу не, але там у мяне хворы сябра і па вяртанні адразу еду туды.

- Тады вялікая просьба, - яна працягнула колькі сотак зялёных, на што ён стаў пярэчыць. - Там магілы маіх бацькоў. Іх даглядала мая цётка, але вясной яна памерла. Наведай іх і прывядзі да ладу. Іх не стала як мне было два гады. Што было потым са мной - не пытай. Казала гэта ўсё яна на чыста беларускай мове.

- Абавязкова зраблю!

Яна перадала Андрэю фатаздымак кладоў і з усмешкай, вартай жалю, сказала:

- Гэта быў самы лепшы Шабат у маім жыцці, і я яго ніколі не забуду.

- Я таксама.

Таня, пад пільныя позіркі дэлегацыі, пацалавала яго ў вусны і пайшла. Андрэй узяў сваю маленькую тэчку з дакументамі і накіраваўся на рэгістрацыю. Толькі за пяць хвілінаў да адлёту "Боінга" амерыканскія мытнікі, службоўцы аэрапорта ды паліцэйскія сілаю прымусілі стажораў з Беларусі зайсці на борт самалёта і заняць свае месцы. Прадстаўнікі дабрачыннай арганізацыі "Зоркі Свабоды для ўсіх", якія ўрачыста праводзілі сваіх навучэнцаў, болей шчыра плакалі за адлятаючых з радасці пазбаўлення ад такой дэлегацыі і верылі, што прадстаўнікі Гвінеі-Бісаў, якія прылятаюць вучыцца дэмакратыі праз некалькі дзён, не прынясуць ім столькі клопату.

## ЗАМІЖ ЭПІЛОГА

Вяртанне Міклашэвіча з таго (Новага) свету ўсе родныя і знаёмыя сустрэлі на "ўра". Жонка пасля стандартных і абыякавых пацалункаў з абдымкамі найперш памкнула разбіраць валізы і раскладваць ды размяркоўваць прэзенты: што і каму ды колькі.

Стомлены пералётам і ў дадатак дарэмным віскі, які раздавалі ў самалёце, Андрэй разваліўся ў фатэлі, у якім была зламана ножка. Адбылося тое, калі ён п'яны ўпаў на яго. Перавёўшы дых, стомлена запытаў:

- Стах з Міёраў тэлефанаваў?

Алена, яго жонка, пільна занятая той справай, адказала абыякава:

- Так! Прасіў, каб ты прыехаў.

Андрэй падняўся, хлебануў з халадзільнікі морсу і прамовіў:

- Буду праз тыдзень.

- Цягніком едзеш?

- Самаходам.

- Ты ж з бадуна!

- Не хвалюйся. Пасля твайго морсу чмуд выйшаў. Як што, па дарозе апахмялюся.

У Міёры ён прыехаў апоўдні, не памкнуў адразу да Стаха, а завітаў на могілкі. З фатаздымкам у руках ён некаторы час блукаў па кладах, пакуль не знайшоў два нахіленыя адзін да аднаго помнікі. Партрэты на іх адзін у адзін супадалі з фатаздымкам. Надпіс сведчыў, што тут пахаваны Таццяна і Максім Астаховічы. У дзень трагедыі яны мелі па дваццаць гадоў. Значыць, яны тую чыкагскую Таню нарадзілі ў васемнаццаць гадоў, а зачалі… Міклашэвічу ад ўсяго стала млосна. Ён абапёрся на металёвую агарожу і некаторы час не мог прыйсці да нейкай высновы. Магілы не зараслі бульнікам, але разнатраўе буяла.

На радасць для Андрэя, Стах амаль аправіўся ад хваробы. Жвавы, чырванашчокі ён з вялікім задавальненнем доўга ціскаў, як дзіцянё мячык, сябра.

- Прыехаў… прыехаў… прыехаў!

- … дзякуй Усявышняму, нарэшце прыехаў, - не прамінуў прыкалоцца Міклашэвіч і дадаў: - Адпусці, дай хоць Ларысу сціпла абняць і пацалаваць.

- Ведаю я тваю сціпласць. Толькі памятай - я кахаю яе.

- Я таксама!

Пасля гэтых слоў і шчырага доўгага пацалунку радасная жанчына памкнула рыхтаваць вячэру.

Стах усадзіў на дзіван побач з сабою госця і пачаў распавядаць нагоду запрашэння:

- 2 жніўня ў Будславе ў касцёле адбудзецца фэст у гонар Унебаўзняцця Найсвяцейшаў Дзевы Марыі. Яе вобраз пабачылі местачкоўцы яшчэ ў 1588 годзе. Гэта непаўторнае свята. Я хацеў бы, каб ты на ім прысутнічаў.

Стах яшчэ доўга распавядаў пра Будслаўскія цуды, неймаверную колькасць пілігрымаў і яшчэ шмат аб чым, пакуль жонка

не паклікала за стол. Увесь гэты час Андрэй маўчаў. Па ім было бачна, што думкі яго далёка ад Будслаўскага фэсту.

Андрэй папрасіў Ларысу прыбраць са стала пляшку "Сталічнай" і на яе месца паставіў двухлітровую пластыкавую бутлю з чыстай, як боская сляза, вадкасцю.

- Што гэта? - здзіўлена запытала гаспадыня.

- Пушчанская.

Гаспадар з задавальненнем пацёр далоні.

- Пяцьдзясят градусаў.

- Крыўдзіш. Каб я найлепшага сябра бурдою частаваў. Шэсцьдзесят.

- О! Пасля гэтага я заўтра буду здаровы як бык.

Падчас паглынання прыгатаваных Ларысаю страў Андрэй павёў такі рэй.

- Шчыра дзякую за запрашэнне. З вялікім задавальненнем прыму ў фэсце удзел. Аднак, хачу заўважыць, Беларусь тое месца, дзе няма мястэчка, каб яго не наведала нейкая святая здань з Ерусаліма. Іх расплaдзілася, як блох на сабаку, і разбегліся яны па ўсім свеце. Асабліва па Беларусі. Буду. Хоць табе ведама, я маю іншыя рэлігійныя схільнасці. Прыкладам, разумею, што прырода ўсемагутная, але ніяк не магу ўцяміць, як адбылося незаганае зачацце, аб якім святары аб'явілі праз колькі сот гадоў апасля. І ўсе ў гэта вераць. Няхай навукоўцы тое вопытным шляхам даказалі б. Мне даспадобы старадаўні славянскі пантыён. Там хоць няма яўна акрэсленага забойцы - бога вайны. А тут без чаркі не разбярэшся. Выпілі, і Міклашэвіч працягваў далей.

- Мне млосна ад старадаўняга свята Купалля. Там дзеўкі праз вогнішча без майткаў скачуць і не баяцца між ног штосці апаліць, затым голымі па жыце бегаюць, пасля чаго ў такім выглядзе па расе на траве ляжаць. Вось гэта свята. І няма тут ніякіх заганаў, а проста містычнае ўвасабленне спрадвечнага жадання працягу чалавечага роду. А не тое, што зараз: вазьмі тую харугву, стань там, кажы такую млоду ды тады жагнайся. А як да гэтай справы - дык спытай у Бога ласкі, а святару сплаці пінёндзы за той дазвол.

Пасля трэцяй чаркі гаспадары зусім завясялелі. Андрэй працягваў.

- Стах, пакуль мы ад пушчанкі не ўкленчылі за сталом (сам ведаеш дзеянне гэтага тэрмаяду) прашуў цябе дапамагчы ў адной справе. У мяне, акрамя пабачыць цябе, была яшчэ адна пільная нагода наведаць Міёры. І я маю надзею, што ты мне ў тым нечым

дапаможаш. І ён распавядаў сутнасць праблемы. Нечакана Ларыса ўмяшалася ў гутарку.

- І я табе, родненькі, дапамагу, - сказала жанчына ўжо на весяле і памкнула праз стол цалавацца да госця.

Андрэй ціхмяна ўсміхнуся, узяў бутлю, наліў кожнаму па пяцьдзесят грамаў.

- На сёння хопіць, бо я бачу, што наша бяседа дабром не скончыцца.

Ён выпіў, узяў пасудзіну і пайшоў спаць у машыну.

Ранкам Ларыса пабудзіла Андрэя, калі сонца ўзышло і пастаяла, як кажуць беларусы. Дзеткі гойсалі па двары.

- Мыйся і снедаць.

Стол як і ўчора поўніўся снеддзю. Яго ўпрыгожвала надпітая бутля пушчанкі.

- Я піць не буду. Трэба ехаць.

- Глыканіце ўдвух. Галавы асвяжыце. Кіроўцам буду я. Міклашэвіч нічога не сказаў, але толькі паспачуваў сябру: "У цябе баба гром. Толькі аднаго не магу зразумець, як яна выцяганула ў мяне з-пад галавы "пушчанку".

Калі селі ў самаход, жанчына зазначыла:

- Едзем да аднаго ў гэтай справе спецыяліста.

З разбітага гаража выйшаў невызначанага ўзросту мужчына з шэрым і пажмаканым тварам.

- Сядай, Макс! Едзем на могліцы. Там абмяркуем адну выгодную для цябе справу. Салон аўто напоўніся пахам тытуню, поту і сікаў. Пасля таго, як ён выслухаў пажаданні Міклашэвіча, уважліва аглядзеў клады, слушна выказаўся:

- Каб штогод не палоць і не касіць грады, варта пакласці плітку.

- Прыймальна, - пагадзіўся Міклашэвіч. - У які тэрмін гэта будзе зроблена і якая сума?

Спецыяліст крыху падумаў і адказаў:

- Пяцьдзясят даляраў. Два-тры дні працы.

- Плачу семьдзясят. Зараз. Праз пяць дзён ад'язджаю, і калі тут не будзе пліткі - побач паўстане яшчэ адзін клад - твой.

- Слова мужчыны. Толькі варта яшчэ кветніцу паставіць.

- Яшчэ дваццаць даляраў зверху. А як з помнікам?

- Можна з …

- Чорны мармур ёсць?

- У нас ўсё ёсць.

- Тады абеліск у адзін камень не вышэй калена. На ім выява

гэтых людзей. Дата народзінаў ды дата смерці. І болей нічога. Толькі памятай, надпіс павінен быць на беларускай мове. Колькі за гэта здзярэш з мяне?

- Ну! Ну!

- Ну! Дугу гну, аглобля выйдзе. Колькі?

- Сто восемдзесят бакаў.

- Даю дзвесце. Грошы будуць у яе, - Андрэй паказаў на Ларысу.

- Аванс на матэрыялы атрымаеш своечасова. Плата за працу па заканчэнні работы.

Пасля ўсяго гэтага Ларыса выцiснула з сябе:

- Пры нашых заробках ты яго азалаціў.

- І ты за свой клопат у накладзе не застанешся, - зняў праблему Андрэй.

Атрыманыя фотаздымкі з цяперашняга выгляду кладоў Андрэй ухваліў і па элетронцы адаслаў іх Тані. Адказу не было.

Толькі праз некалькі месяцаў пасля Новага году Андрэй нечакана атрымаў электронны ліст ад Васэрман.

- Я заўжды была ўпэўнена, што ты сапраўдны мужчына і трымаеш слова. Вось табе падарунак ад мяне. Яго зваць Андрэй.

На фатаздымку на руках бязмерна шчаслівай мамы было нейкае чмо, якое адзін да аднаго было падобнае на бацьку ў маленстве.

2001-2021 гг.

**Язэп Палубятка.** Вандроўка ў Чыкага. Іранічна праўдзівая аповесць. На беларускай мове. Ліда, ПУП "Пружмень", 2023. 68 с.
Наклад 120 асобнікаў.
Друк RISO. Папера офісная.



Язэп Палубятка (Іосіф Іосіфавіч Палубятка) нарадзіўся 14.10. 1955 г. на хутары Боркі ля вёскі Дашкаўцы Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці.

**Другая кніга аўтара з серыі "Сатырычная гісторыя Беларусі".**

***"Неспадзяванка! Такое бывае толькі раз у жыцці", - фантастычныя мроі тлумілі розум чалавеку. Андрэй Міклашэвіч з маленькага мястэчка М. да самага апошняга моманту, нягледзячы на тое, што ўжо меў на руках пашпарт з візаю, не верыў, што яму пашанцавала паехаць у Амерыку, у горад быдлазабойцаў, ганстараў, мафіі - Чыкага..."***